гэткі імпэт, асабліва на кухні. Жаночае. Сталею. І ўсё адно сплю з Таніным – атрыманым на васемнаццацігоддзе! – Аргусам у абдымках. Гата-ваць жа не хочацца!

Пацягнула да Дастаеўскага. Так проста і геніяльна. Сапраўды можна звар'яцець, пабыўшы цэлы дзень сам-насам з яго творам. Добра, што раней сілком не садзілася. Вось і разбярыся, калі трэба сябе змушаць да нечага! Мне шмат чаго не было дадзена ў час. Надрабляць? Ясна, шлях адзін. Толькі страшна глядзець наперад. Даганяць заўсёды цяжка, тым болей цяпер, калі задумваешся над кожным творам. Што чытаць? Ды ўсю класіку.

30 ліпеня

Дастаеўскі. Як сутнасна дакладна. Няхай гэта людзі з хворым уяўленнем, якія будуюць сваё жыццё на пяску. Але ж колькі ў мяне агульнага з Нетачкай Нязванавай! Па-дзіцячы наіўная і таксама вялікае дзіця. Таксама захапляюся Л. М. В., што ёсць жа пачаткам дружбы. Магчыма, такія парывы ў мінулым, нядаўнім, але ўчарашнім дні. Узбуджанасць, калі ўмомант сыходзіць нібы цалкам усё, а застаюцца згрызоты сумлення, усведамленне сваёй нікчэмнасці. Ну навошта побач з маёй бяздарнасцю гэтае інтуітыўнае вычуванне людзей? Іншым дастаткова штодзённых клопатаў, ажыўленасці свят. Нярвовая ўзбуджанасць не дае паглыбіцца ў кнігу. Усё нечага шукаю, шукаю. Нібы страус, уяўляю сябе птушкай, а ўзляцець не магу.

У Дастаеўскага менавіта свой стыль. Суцэльныя думкі, хваляванне. І вельмі проста піша. Без якіх-небудзь асаблівых параўнанняў, апісанняў прыроды. Прыгожасці сапраўды не да месца. Іх і не заўважыў бы, акунаючыся ў пакуты душы. Быц-

цам я сама Нетачка Незванава... І ўсе падзеі – само жыццё, выяўленае аб’ёмна.

1 жніўня

Евангелле робіць надзвычайнае ўражанне. Прачытала і адчуваю, як ураўнаважваецца душа. Шмат дакладных думак, але ёсць і моцныя супярэчнасці. Кожны чалавек стварае свой свет у самім сабе. Так, у кожнага мусіць быць вера ў штосьці высокае, найперш дзеля таго, што ён чалавек... Як добра, што мама пазычыла ў Святой гэты зачытаны томік, пісаны па-старому яшчэ, так што мне з маёй “чацвёркай” па стараславянскай цяжкавата чыталася. Шкада, што трэба вяртаць яго. Вось ніколі б не падумала, што ў яе апроч коз яшчэ і такая каштоўнасць прыхавана. І, відаць, чытаная. Ну, ніколі я над гэтай беднай старой жанчынай не насміхалася. Яна жыве ў хацінцы з застаўленымі фанерай вокнамі, дзіравым дахам. Амаль гладкі дзіцячы твар, пяшчотная да людзей, уступлівая. Аднак з тым, каб услед за правай падставіць левую шчаку, яна не згодная.

2 жніўня

Харкаў, вакзал, мітусня, заліты сонцам перон, аўтобус... Дзіўна, але ўсё гэта вымалёўваецца зараз у падрабязнасцях. Мабыць, на ўсё жыццё запомню і Селекцыйную, і лясную дарогу, і хвіліну, калі анямела, убачыўшы яго, чужога і роднага. Чужога? Не! Думка: “Няўжо гэта ён?! Не сон!”

Лілія тыдзень жыла ў бочцы з вадой, застаючыся чыстай і бела-снежнай, а потым пачала незваротна чарнець. А людзі? Вырві некага са звыклага месца, чырванеюць, бялеюць, чарнеюць, а пасля прызвычайваюцца. Зноў расцвітаюць. Нехта ўсё ж чахне з першага імгнення, пазбаўлены

роднай глебы. Як цяжка прадбачыць лёс чалавека. Лілія ж проста мусіла пачарнець. Проста і ясна.

Ад С. няма ліста! Восем дзён, што там з ім можа здарыцца, а я хвалююся...

Чмель у белых шорціках  і кашульцы ў чорна-жоўтую палоску. Такі важны, дзелавы.

Таты-мурашы і мамы-мурашкі. “Любяцца” – шчыкочуць адно другога вусікамі-лакатарамі. І адкуль у іх  такая бязлітаснасць? Таму што не думаюць? Цягнуць жывую божую кароўку невядома куды, хаця, відаць, яшчэ як ведаюць, а яна не мае сіл супрацівіцца ім, выратаваць сябе.

7 жніўня

Поўня. Ліхтары. Сціплыя дрэвы. Хочацца спяваць. Вецер лашчыць твар, рукі, ногі. Нібыта сама пяшчота і каханне. Музыка сэрца. Веласіпед кружляе. Поўня ўглядаецца ў твар. “Тару-рам, тра-та-там...” Добра! А потым  яблычнае храбусценне. Цёмна і зрываюцца недаспелыя, зялёныя. Добра. Кепска адно: ад С. няма ліста....

8 жніўня

Відаць, зусім я дзіця, калі пачынаю жыць і паміраю разам з героем рамана. “Чырвонае і чорнае” Стэндаля – да глыбіні душы ўзрушаная. Жульен – правінцыял, я ў Мінску таксама правінцыялка. Яму цяжка з-за таго, што не можа лёгка, проста глядзець на жыццё. Мяне скрозь прыгнятае ўнутраная цяжкаважнасць, нязграбнасць, што і навонкі распаўсюджваецца. Захопленасць і надумлівасць. Урэшце, гэтая наіўнасць, калі прымяраю на сябе і нетачак, і жульенаў. Ці ўдасца вызваліцца  з гэтай інфантыльнасці... Уяўленне, якое не паддаецца апісанню, толькі вораг, які  замінае жыць, атручвае радасць думкамі аб тым, што ўсё міна-

ецца. Як кепска адчуваць сябе стомленым чалавекам, калі ты яшчэ не жыў. Ах, Стэндаль зусім мяне вымучыў.

9 жніўня

Чаму С. не піша? Капрызы ці хвароба? Невядомасць страшней за ўсё. І, відаць, нельга чалавеку **залішне** давяраць або **залішне** кахаць яго. Глупства! Каханне тым і адрозніваецца ад захаплення і дробных страсцей, што без якіх бы там ні было аглядак і падазрэнняў давяраешся пачуццю і чалавеку. Вось маё сэрца. Бяры яго, рабі з ім, што хочаш. Толькі помні, што яно давярае табе болей, чым сабе. Разлік і каханне. Сонца і снег. Магла б не пісаць С., ёсць дзённік. Ды ад такой думкі яшчэ цяжэй. Каханне сляпое. Уключаны, аднак, і цвярозы розум. Калі ў яго ўсё нармальна, дык непрабачальная жорсткасць нішчыць маўчаннем чалавека, які бясконца верыць табе, кахае. Але ж я веру яму. Ён не можа маўчаць проста так, а ад гэтага яшчэ цяжэй, самыя страшныя думкі ў галаву лезуць. Піратэхнік. Мурашкі па целе. Што ж мне рабіць? Пісаць? Чым я магу яму памагчы? Няўжо ён зноў адыходзіць ад мяне?

10 жніўня

У Старажытнай Грэцыі удзел у вялікіх урачыстасцях, якія суправаджаліся тэатральнымі відовішчамі, спектаклямі, быў грамадзянскім абавязкам. Значыць, у тэатр хадзіў і адначасова быў акторам кожны грамадзянін.

Хочацца заснуць і не прачнуцца. Чаму ён маўчыць? Хандра беспрасветная, на змену якой, ведаю, яшчэ прыйдзе незразумелая радасць....

Паважаць сябе сілком не змусіш. Так і нада мной у групе некаторыя будуць далей здзекавацца,

проста ў твар гаварыць брыдоты, а я з вінаватай усмешкай буду адводзіць вочы. Што напісана ў крыві, не выкараніш рыдлёўкай. Я не ўмею ілгаць, у мяне няма пачуцця ўласнай годнасці. Першыя дні пасля Харкава было лёгка дыхаць, як на крылах насіла. А цяпер вось няма лістоў і я зусім каша-смятана. У каторы раз пераконваю сябе, што галоўнае самой любіць, кахаць... Так патрэбныя мне цяпер размовы з разумнымі, інтэлігентнымі людзьмі, каб стаць самой сабой. І не пужацца ўласнай неадпаведнасці іншым. Не крывіць душой. Гаварыць, рабіць тое, што сама лічу належным. А на "арыстакратыю" ўвогуле не звяртаць увагі.

14 жніўня

Нават памідоры можна насіць велічна, а як навучыцца проста па-чалавечы хадзіць... У Магілёве. Крымпленавы касцюм Ліда пашыла. Залатыя рукі! Праспект Міра, Палац піянераў і школьнікаў. Крыху больш за два гады таму тут стаяў, хадзіў і С. Сентыментальнае дзеўчанё...

17 жніўня

Ліст прыйшоў, кароткі, безасабовы, нават без подпісу. Яму кепска, я разумею. І калі трэба будзе сысці, я гатова. Ён жывы, самае галоўнае. Тры лісты за паўтара месяца. Сумная статыстыка. Любіць "як нявесту і як малодшую сястрычку, якая гадоў на пяць маладзейшая".

У 20-х гадах IV в. да н. э. вылучыўся Агафокл. Быў ганчаром і паходзіў з небагатай сям'і. Узняўся дзякуючы сваім здольнасцям на вышыню стратэга-аўтакрата.

23 жніўня

Праз тыдзень у Мінск. Так мала паспелася!

Нямецкая мова – зноў на вучэбны год. Здаецца, і займалася б цяпер, але вось Чэхаў, антычнасць. Доўга ж прыводзіла сябе ў парадак. Апошні яблык з белага наліву. Мама падзяліла яго на дзве часткі. Мне і Васілю...

Вельмі псіхалагічныя аповесці ў Васіля Быкава. Захапіў "Сотнікаў".

30 жніўня

У чарговы раз сцвярджаю, што ўсе геніі, добрыя геніі, у душы дзеці. Першае. Што такое дзяцінства? Перыяд адкрыцця свету, назапашвання інфармацыі, ведаў. Напачатку дзіцё падсвядома запамінае маміны твар, голас. Сама прырода змушае яго да гэтага. Пасля яно вучыцца нечаму свядома, таму што яму гэта цікава, хочацца ведаць, умець.

Другое. Што такое даросласць? Устойлівасць поглядаў, дасягненне ідэалаў. У кожнага чалавека першапачаткова закладзена прага пазнання – крыніца духоўнага росту чалавека. І вось настае момант, калі гэтая крынічка вычэрпваецца, рост запавольваецца і нарэшце застаецца сухі пясок. Усё, далей чалавек не ўзрастае. Свет абмяжоўваецца аднойчы ўсвоеным. Ні кроку ўбок. Ён для сябе бог і геній. Дзяцінства гэтага чалавека ў мінулым. Сустракаюцца аднак людзі, якім на працягу ўсяго жыцця ўласціва дзіцячае імкненне да адкрыцця, спазнання свету. Падмацаванае вопытам гэта памкненне набірае сілу і ўплывае на жыццё тых, хто побач. Добра. Над гэтым трэба яшчэ падумаць.

У Мінску. Студэнтка другога курса.

1 верасня

Толькі з Чырвонаармейскай, любага філфаку.

Шкада, сяброў у мяне там пакуль што няма... Смешна і недарэчна патрабаваць ад людзей, каб яны жылі "па-твойму". Каб чыталі гісторыю старажытнай Грэцыі і пакутавалі ад усведамлення ўласнай абмежаванасці, з-за немагчымасці асягнуць напрацаваную чалавецтвам культурна-мастацкую бясконцасць... Мяне ж неадступна як нейкі чарвяк точыць – мне страшна, што збягае ў нікуды надарэмна мой час, а дзяўчаты пасміхаюцца над тым, што я, такая звычайная, пасрэдная, імкнуся ў "высокія матэрыі". Сама вінаватая! Трэба агарадзіць сваю душу і не даймаць іх недарэчнымі шчырасцямі. Так, люблю людзей і хачу, каб любілі і мяне, таму так балюча быць чужой. Ды яны прызнаюць за мной рацыю тады, калі зразумеюць, што чалавек на тое і чалавек, каб пакутаваць, караскацца ўгору, зрывацца, падаць і зноў уздымацца. Мне трэба паслядоўна працягваць ствараць сябе. І як бы ні было цяжка, не крывіць душою. Сумленнасць, чысціня. Я не ведаю яшчэ, кім усё ж такі буду – настаўніцай ці журналісткай, а можа і тым і другім. Недзе ў глыбіні душы варушыцца думка аб пісьменніцтве, хоць я і перад самой сабой не хачу прызнаваць яе, бо, апрача памкнення пісаць і працавітасці, пісьменнік мусіць найперш мець талент... Аднак гэтая думка-жарт (?!) міжволі апраўдвае маю прагу ведаў, зацікаўленасць людзьмі. Што ж, відаць, вызначана мне знутры суцэльнае добраахвотнае насілле над сабой жа, праца і праца.

5 верасня

Трэці дзень наша чацвёртая група на бульбе ў Раванічах Чэрвеньскага раёна. Сяджу над місай са слівамі, перамешваю, пышную пенку здымаю, як дома пры маме сочыва вару. Бабка задаволеная,

што вызваліла яе час на гаспадарчыя клопаты. Дзяўчаты пайшлі ў лес адзначаць дзень нараджэння Людмілы. Мне і не хочацца нікуды рушыцца, а ўсё адно нібы і крыўдна. Быццам адну маленькую пакінулі. І як жа кепска, калі адзін чалавек засланяе сабой усіх і ўсё... Тужліва. С. далёка. Быць нам некалі побач?..

Толькі два дні працы на полі, у людзях, а страшэнная стомленасць, нібы цэлую вечнасць гнешся над баразной...

9 верасня

Чытаю Дастаеўскага. Захапляе, змушае да нават пакутлівых развaг. Нядобрая думка, ад якой душу халодзіць: інтэлектуальнае жыццё можа апанаваць сабой мяне ўсю, цалкам. І як выратаванне наплывае прыліў пяшчоты да яго, далёкага... Сапраўды, я падобная на "ідыёта"... Вучыцца! Не прабачаць сабе нічога!

Часовае знаходжанне ў нейкім новым месцы відавочна абуджае назіральнасць.

Бабка моцна пасварылася з дзедам. Абодва да нецэнзурных слоў скаціліся. Урэшце як апамяталіся, і яна, выжаліўшыся нам, пачала прапаноўваць малачко, сушкі, сліўкі... Выснова: так пакрыўджаны чалавек стараецца знайсці суцяшэнне ў тым, каб зрабіць штосьці добрае іншым.

Весела выбраліся ў сталовую, а ў хаце амаль насупраць хтосьці галосіць. Наталля насмешліва сказала: "Па парасяці бабуся". Праз дзень даведаліся, што ў бабусі год таму з невялікім памёр сын, а пасля неўзабаве і дачка ўслед за братам адышла. Маладая, незамужняя. Вось і засталася старая адна ў пустой хаце. Плача і плача, галосіць, твар ужо бурачковага колеру.

Бабка сабрала сабе адзенне на смерць. Па-

казвае вузел у шафе: “Каб дзеці не грызліся...”

Шасцігадовы Юрык: “А ў нас хутка не будзе маленькага ў садзіку. Я ў школу пайду”.

10 верасня

Адчуванне, што дзесьці глыбока ўва мне расце новая свядомасць, новы чалавек. І ён усё настойлівей звяртаецца да мяне цяперашняй. Спеліцца штосьці як без майго ўдзелу. Спакайней знешне і бязладней знутры, дакладней жа – трывожней.

“Пчолка ў твой вулей уляціць, а мой пусты вулей. Хоць бы адным вокам на ўнукаў глянуць”.

Як навучыцца спалучаць у сабе непазбежны ўдзел у найчасцей грубай рэчаіснасці з вершамі Ахматавай, песняй Сольвейг, ідэямі Дастаеўскага? Не адрывацца ад простых хат і сцежак ды жыць высокім?..

13 верасня

Сёння страшэнна холадна. Ногі ў гуме касцянеюць, вецер працінае наскрозь. Мы ж павінны выбіраць бульбу. Трэба, а хочацца кінуць усё і схавацца ў цяпло. Крыўда на тых, хто нас сюды паслаў. І вось грыміць думка: ”Кожны адзінаццаты на нашай планеце галадае. Мне кепска цяпер, а ён, можа быць, памірае ад таго, што не атрымаў у час кавалачка хлеба. А вядро бульбы выратавала б яго. Няўжо маё кепскае зараз не акупляецца, не суцешваецца выратаваным жыццём?!”

Быць вышэй штодзёншчыны. Старацца вычуваць найперш не сябе, а – людзей у сабе. Як часта разумееш, што побач дзеецца непатрэбнае, а мірышся з крывадушшам, подласцю ці элементарнай абыякавасцю. Значыць, падтрымліваеш іх. Разумею, што па нядбайнасці прападае не адно

вядро бульбы, не адзін пуд зерня. І тваё “я” часта толькі чыстай кропелькай сярод бруду, але ж ратуюць адно надзея, вера ў тое, што дабрыня пераможа, трэба толькі да яе імкнуцца, рабіць усё магчымае дзеля ўсталявання справядлівасці...

Ну вось, запісаліся шчырыя парывы душы, а тут адразу наскокам – агідная здрадлівая думка: “Ах, якая добранькая, якія нараджаеш пачуцці. Не тое, што іншыя...”

15 верасня

Прачытала “Записки из подполья“ і ніякай абяцанай у прадмове рэакцыйнасці не знайшла! Пазней трэба хіба ўважлівей глянуць яшчэ.

Сёння ледзь не запала ў істэрыку. Бабка любіць, дзед любіць. Абодва плачуць, жаляцца мне адно на другое. Звар’яцець можна паміж імі. Урэшце дзед мяне ў свае боты абуў і павёў гаспадарку паказваць.

“Смутны час”. Уласныя абмежаванасць, будзённасць, сентыментальнасць забіваюць. Зніклі колішнія ілюзіі адносна бліскучай журналісцкай прышласці. Цяпер жа мэтаю тое, каб вымучаная мною цвярозасць не адцяла крылаў у звычайнай чалавечнасці. Не стаць маленькай. Не страціць веры ў прыгажосць, пяшчоту. Не супакойвацца. Жыць, а неназіраць. Не дазваляць душы ленавацца!

18 верасня

Людзі ў вёсцы п’юць самагон, лаюцца, сварацца і ўзрошчваюць хлеб ды патрэбнае да хлеба. Жывуць, не задумваючыся над жыццём. Не ведаюць, куды сябе ўвапхнуць у доўгія святы, калі ад выпітага алкаголю расколваецца галава. У вялікіх гарадах ва ўніверсітэтах і інстытутах,

тэхнікумах і вучылішчах рыхтуюць прафесіяналаў розных узроўняў. Законы Архімеда, Н'ютона – першымі цаглінкамі ў вялікасным палацы навукі. Ён усё болей разбудоўваецца, узнімаецца вышэй і вышэй. Ракеты над Зямлёю, чалавек ступіў на тужлівую таемную Селену. Куды толькі ні зазірнулі вочы чалавечыя! І пад зямлёю не ўбачылі пякельных кругоў Дантэ, затое знайшлі вугаль, медзь, соль... Час – дэфіцытам для жрацоў навукі, мастацтва, наватараў і г.д. У імя чаго бяссонныя ночы, пакуты, ахвяры? Вядома, дзеля шчасця чалавецтва, каб здзейснілася вышэйшая прадвызначанасць чалавечага жыцця. Дык чаму ж над галавой месяц з чалавекам, а на зямлі – няшчасныя людзі, душэўная тупасць, пошласць. Мільёны іх, простых працаўнікоў, праходзяць свой дзень, спаглядаючы на грэшную зямлю праз шэрыя акуляры. Такім чынам, адны ўсё далей, вышэй, а іншыя недзе ззаду ледзь цягнуцца. Разрыў усё павялічваецца. І вось першыя, раптам аглянуўшыся назад, здзіўляюцца гэтай дыстанцыі і грэбліва моршчаць нос. Дык у імя чаго ахвяры, бясконцыя высілкі?!

У вёсцы цяжка псіхічна, але ж нечаканыя знявагі ўспрымаюцца душой як своеасаблівае пакаранне за нешта неадпаведнае мне ўва мне ж, і як расплата прыніжэннем за шчасце быць далучанай да свету паэзіі, мастацтва. Уплывы Дастаеўскага?..

19 верасня

А неба восеньскай парой па чарзе свеціцца і сутоніцца. То бялюткія пухавыя воблакі вандруюць па глыбокім зараз блакіце, то цёмнымцёмныя хмары наплываюць. Каля лесу жалоба – памерлы дуб. Роспач ткне ад раскінутых бездапа-

можна сухіх галін-рук, узмацняецца жывымі колерамі зялёнага хваёвага лесу, васільковых высяў. Вусцішна. Мёртвае павінна сыходзіць са сцежак жыцця. Так балюча бачыць магутнае і цудоўнае навекі анямелым. О, мае пцічанскія дубы з русалкамі... Хадзіла па лясным ускрайку і прысела на падзіраўлены пянёк. Летам мураўі спакою б не далі, а цяпер дружна схаваліся ў сваё мураўінае царства. Стаяць цютчаўскія дні і вечары. Як у гарачыню калыхаецца паветра, а свежа. Яшчэ зялёная трава прымае апалае аднойчы і назаўсёды лісце. Праз тыдзень закончыцца наша бульба. І я ніколі ўжо ў гэтае месца, на гэты пянёк не патраплю... Назусім размінуся з тутэйшымі вяскоўцамі. Ім да мяне не будзе далей справы і мне да іх – як з гэтым звыкнуцца?.. Пару дзён не чытаецца. Кепска. Суха-суха ў душы.

22 верасня

Мужык п’е – паўдома гарыць, а калі жонка – цэлая хата.

Злодзей пройдзе, шмат чаго аставіць, а агонь усё зліжа.

Угаварылі, асмелілася выступіць з дакладам аб беларускай літаратуры ў мясцовай школе. І якім комам мне гэты першы “блін”! Гублялася. Найпрасцей было адказваць на “аўтабіяграфічныя” пытанні: якую школу закончыла, любімы прадмет або пісьменнікі на філфаку... Вучыцца і вучыцца мне!

24 верасня

Апошняе вядро бульбы. Апошні позірк на поле. Дваццаць дзён жыцця, прашытых адной ніткаю. Сярод сваіх аднагрупніц і сярод незнаёмых людзей. Сярод маіх бяроз – яны заўсёды і

паўсюль мае, родныя. Узаранае чорнае поле ўжо зелянее. Колькі энергіі ў травы, пустазелля, каб так хутка выбіцца з зямлі! Сапраўды, у адпаведнасці з лацінскім выслоўем: малая, кепская трава хутка расце. Вось бы людзям мець такую вытрываласць... Чакала, што будзе значна цяжэй. Выснова: магу і павінна працаваць у калектыве. Сёння раніцай зашчымела сэрца. Заўсёды шкада развітвацца з абжытым месцам. Але ж я не прывыкла да Раванічаў! Вось і ў гэтым пачуцці – славутыя ўнутраныя супярэч-насці, якія Дастаеўскі так дакладна перадае... І хопіць з мяне бульбы! Трэба наступным летам у атрад праваднікоў запісацца. Хачу ў матулінай ласцы схавацца!

25 верасня

Нарэшце я ў Дараганаве. Дома! Мой плюшавы Аргус дачакаўся вяртання гаспадыні з падарожжа, хай сабе і не Адысеева, але ж як важнага для мяне... Заўсёды еду дадому з трывогай: як тут бацькі, ці не сталася чаго кепскага. Уражанні, аказваецца, распіраюць! Вось мая бульба. Не паспявае язык за думкамі. Ну і дзіцёнак я яшчэ... Сёння аб’ядалася салодкім: кекс, марожанае, цукеркі і адразу пачала тлусцець! Твар, абветраны за тры тыдні на полі, аж гарыць.

26 верасня

Мілыя мае дзяўчаткі. З імі разумею, як змяняюся. І якое шчасце, што не трэба думаць пра тое, як успрымецца тваё кожнае слова. Над табой не будуць кпіць, даруюць тваю слабасць, бо цябе ведаюць здаўна, імкнуцца зразумець, а найгалоўнае – любяць. Цябе прабачаць і ты прабачыш. Лёгка і гаварыць, і маўчаць. Гэта ў адрозненне ад маёй мінскай сітуацыі. З філалагінямі-аднагруп-

ніцамі адчуваю сябе страшэнна непаваротлівай і цяжкаваговай. Нібыта гірамі нейкімі душа абвешваецца. Праўда, зрухі пэўныя ўжо і тут абазначыліся. Пайшло на збліжэнне з Марынкай, з Данкай. Каб жа...

Лянуюся і апраўдваю сябе зменай месца. Кепска! Трэба ўмець засяроджвацца ў любых абставінах. Іначай кранты. Гэта калі кожны раз так раскалыхвацца, дык і ўсё жыццё неўпрыкмет праміне.

27 верасня

Праца ўцягвае. І, о богі, мне сёння захацелася ў баразну! Праўда, ахапіла нейкая тупая абыякавасць, калі разраўняла апошнюю. Так, праца здольная і ўзвысіць чалавечае ў чалавеку, і прынізіць да жывёльнага стану. Корпалася ў зямлі, а побач па нашай Птушыцкай вуліцы насіліся МАЗы. Падвышаюць вуліцу, асфальт нарэшце пакладуць?!

Усё ж да фізічнай працы змусіць сябе лягчэй, чым да паслядоўнай вучобы... У адзін дзень некалькі чалавек сказалі мне, што змянілася. Усё адно пакуль *дзікая*... Парасон. Мой парасон. Якая радасць для васемнаццацігадовай дзяўчыны! Пацягнула на вершы. І рукі апускаюцца перад заваламі кніг. Трэба чытаць для сябе, а не для знешняга эфекту, маўляў, і ты тое, што на слыху, асвоіла... Не малпаваць, заставацца самой сабой. Божа мой, як хочацца спяваць! Чаму, чаму не дадзена мне голасу...

28 верасня

Прадчуванне душэўнага перавароту. Нібы збіраецца навальніца. І хочацца збегчы ў хваробу, а хварэць нельга!

Хадзіла па школе, спазіраючы на знаёмыя стэнды, новыя газеты. Дзятва, якой я зусім абыякавая, высыпала на перапынку з класаў. Родная ж школе, калідорам, шырокай драўлянай лесвіцы, якой і мама некалі яшчэ да вайны ўзбягала на другі паверх. Ахопліваюцца ўнутраным поглядам мае школьныя гады. Раней школа была найвялікшым домам, у які ўваходзілася з усімі хваляваннямі, клопатамі. Цяпер жа яны так выраслі, што наўрад ці іх вытрымаюць і грунтоўныя падваконнікі з вечнымі вазонамі герані... Здаецца, зусім побач час, калі ўпэўнена іду па гэтым калідоры. Маё дзяцінства ў чырвоным гальштуку, тры чырвоныя палоскі старшыні савета дружыны на рукаве школьнай формы. Крыху шчыміць у душы. Мне зусім не сорамна вяртацца ў дзяцінства! Добра, што яно было такім.

Пасядзела на ўроку гісторыі ў Мілы – яна на сваім месцы. Мікалай Іванавіч пасівеў і нібы яшчэ паменшаў ростам, бы выгарэў блакіт вачэй. Успомнілася, як у пятым класе міжволі падвяла яго. На адкрытым зборы, у прысутнасці амаль усіх настаўнікаў, на ўдалае завяршэнне, як кропку паставіць, запрасілі старасту, каб выказалася аб недахопах. Ну, стараста і распавяла з запалам аб тым, што хвалявала: аб двойках, кляксах на партах, згубленых гальштуках і прагулах. У выніку Мікалаю Іванавічу добра ўсыпалі на педсавеце за клас, хоць клас жа быў лепшым у школе! І як дакарала мяне, любімую вучаніцу, любімая Зінаіда Майсееўна... Дзіўны ўрок мне быў дадзены. Чаго ад мяне чакалі?! Аказалася без віны вінаватай – па наіўнасці, шчырасці сваёй. Ды насу-перак таму і іншым пазнейшым урокам і сёння за-стаюся на сваім – я за праўду і шчырасць!

29 верасня

Ну, зусім кепская. Капрызнічаю, раздражняюся, крыўджуся колькі разоў на дзень невядома за што. Дурацкая пыхлівасць, калі штосьці атрымліваецца лепш, чым у іншага. Васіль хлопец і ясна, што мне належыць хутчэй за яго бульбу выграбаць, а мне прыемна, што ён адстае! І нібы дабрэйшыя тыя людзі, у якіх лепш штосьці за іншых атрымліваецца. Толькі ж дабрата тая найчасцей трымаецца на валаску вязення. Праз нейкае імгненне гатовая абярнуцца ў непрыхільнасць да таго, каму гэтым разам пашанцавала. Рабскае пачуццё...

Не атрымліваецца ўвайсці ў каляю сваю. Рассыпаюся макам налева і направа. Трэба ў Мінску сур'ёзна ўзяцца за самаадукацыю. Не гнацца за знешнімі эфектамі, а закладаць грунтоўную аснову. Усё ахапіць немагчыма. Таму мушу навучыцца выбіраць толькі тое, што неабходна і карысна менавіта мне. Усур'ёз заняцца deutsch!

30 верасня

Дастаеўскі, Дастаеўскі і яшчэ раз – Дастаеўскі! Было цяжка ўзяцца за "Братьев Карамазовых" пасля месячнага перапынку, але сёння ўвайшлося ў адпаведны настрой. І зноў апынулася ў свеце нярвовых пачуццяў, трывожных памкненняў.

Калі Васіль даставаў шэрую кашулю з чамадана з-пад ложка, вырваўся навонкі пах нафталіну. І мне адразу ўзгадалася чытальная зала бібліятэкі на Талбухіна. Мужчына гадоў сарака прыносіць з сабой клубы такога паху. Я не вытрымліваю болей за паўгадзіны гэтага суседства і рэціруюся са свайго зручнага месца на другі канец залы або на свежае паветра. Аднойчы ж у тралейбусе ўдарыў у

нос знаёмы пах. Міжволі азірнулася. Так, гэта быў мой "вораг" з чытальні. Выцягнуты ўгору, з залысінамі, невыразнымі рысамі твару. Здалося, што ён наскрозь пранафталінены, нібы думкі ягоныя, словы таксама нафталінам працятыя...

Такое "адкрыццё" – праз тры месяцы сесія! Жыць. Жыць. Яшчэ адзін мой верасень з чарговым лісцепадам спадае ў мінулае. І вось жа нядаўна яшчэ была вясна, калі зялёны пругкі свет рваўся ў высі... Увосень лісце, прасякнутае тужліваю пяшчотай, прыпадае да зямлі. І не ведаю, што болей душы маёй адпавядае. Ці то зялёны кіпень, ці гэтая агністая шапаткая стракатасць... Заўважаеш раптам, якое калючае голле ў акацыі і шкадуеш састарэлыя мальвы, што нядаўна яшчэ так радавалі сваімі шматлікімі тварыкамі ў капялюшыках.... Хочацца жыць! Любіць, кахаць і трымацца насуперак усім вятрам. Не трэба мне роўнай, ціхай дарогі. Няхай пакутуюць душа, розум, цела. Адпакутаваць, вымучыцца на зямлі і ўсё адно прымаць, любіць яе, гэтую маю адзіную юдоль...

1 кастрычніка

У Мінску. Чамусьці зноў апускаюцца вочы... Мітусня. Раздваенне. Усё тое ж: паміж грубасцю акаляючай і ўласнай, і – пяшчотнай, моцнай паэзіяй, прыгажосцю, любоўю. Крык душы. Да чаго прывядуць гэтыя мае неадступныя самапаглыбленні... Што ж, паназіраем!

Пер Лагерквіст – "В мире гость". Псіхалагізм Дастаеўскага, рамантызм Грына, чысціня Паўстоўскага.

5 кастрычніка

Якое шчасце, што старажытнарускую літаратуру чытае Ларыса Лявонцьеўна Кароткая! Адразу

палюбіла яе і ўжо хочацца быць на яе падобнай. Бачу побач Ларысу Рэйснер. Якая вышыня – гэтыя лекцыі! Іх слухаеш, канспектуеш, на іх задумваешся, ажыццяўляешся...

І яшчэ адна выдатная выкладчыца – Вера Міхайлаўна Лумбіна. Быў выбар паміж чэшскай і сербахарвацкай мовамі. І душа мая прыхілілася адразу не так да мовы, як да В.М.Л.! І пачалося адкрыццё такой аддаленай для мяне Югаславіі.

Зноў пяшчота, вельмі жаночыя пачуцці. Хочацца, каб мой хлопчык, які некалі ж прыйдзе ў свет, быў падобны на С. Не ведаю, слабасць гэта ці яшчэ нешта, але ж, вядома, не сіла. Мабыць, прырода. Як бы ні "асуджала" дзяўчат, а мы ўсе найперш жанчыны. Слабасць жа часам за сілу мацнейшай бывае. Сёння мне не хочацца абдымаць увесь свет, а пакласці б галаву на яго плячо... Мы над сцішанай планетаю. Яна ўсё разумее і прабачае дваім. Хіба не дзеля гэтага імгнення нарадзілася натхненне Шэкспіра і Грыга?! Каб крылацей і чысцей мы былі.

7 кастрычніка

Бетховен: "Няма правіла, якое нельга было б парушыць дзеля schőner (болей цудоўнага)".

Пяшчотнае святло залівае парк ціхім смарагдава-залацістым ззяннем, абвалаквае невыказнай таемнасцю. Час пульсіруе сярод ліхтароў прамінаннем жоўтага, чырвонага лісця – дзетак-крывінак клёнаў. Лісце памірае, але гэта смерць прыгожая. Першы раз я гавару без страху: смерць. Вечны механізм. Смерць на службе ў яго. Толькі не трэба ёй памагаць. Люблю Мінск. Заўсёды. Толькі днём мы абое нібы саромеемся пяшчоты. А ўвечары Мінск мой...

І як жа мне цяжка самастойна сябе ствараць!

Самім нараджэннем чалавеку вызначаецца яго месца, а я насуперак свайму паходжанню пнуся да таго, што мне не належыць, аб чым між іншым мне нагадвалі не аднойчы... Унутраны голас змушае пакутаваць, напружвацца, часта ісці наперакор вызначанаму. Што атрымаецца з гэтага? *Попытка не пытка*. Хоць яна для мяне і пакута. Ды ўжо іду здаўна сваёй Уладзімеркай. Дарога нібы вольная. І магу зазначыць, што некалькі іначай, вальней, адчуваю сябе, чым летась у гэты час.

Выстава мексіканскай графікі ў Мастацкім музеі. Творы гучаць пакуль няяснай мне музыкай. Адзінства рытму. Болей давяраю вачам. Радасна, асэнсавана хадзілася па залах Музея. Душа наталялася мастацтвам. Пасля летняга перапынку віталася з карцінамі, нібы з найбліжэйшай раднёю, сябрынаю.

10 кастрычніка

Чалавек прызваны да таго, каб дасканаліць сябе. Прымем, што кожны – на гэтым шляху. З рук у рукі перадаецца выпакутаваны, выпеставаны доўгімі гадамі чалавечы матэрыял. І калі не перашкодзіць вайна, не згасне сонца, зямля не сыйдзе з арбіты, павінен жа ён, чалавек, некалі дайсці да ідэалу. Ці магчымасці тут невычарпальныя? А мудрасць падобная глыбезнай студні, з якой колькі ні чэрпай, а дна не відаць? Прынамсі, заснеш з эйфарычнай думкай аб тым, што дасягнуў вышыняў, а раніца ацвярозіць новай недасяжнасцю. Не даецца зразумець, асэнсаваць, што такое **вечнасць**...

Накацілі нібы крамольныя думкі. Зараз паўсюль і ўсё – грамадскія арганізацыі. Калі ты ў калектыве, дык, будзь ласкавы, не адрывайся ад яго. Калектыў нясе толькі станоўчае. Значыць

апрыёры тое, што аказваецца па-за ім, – адмоўнае, няпоўнавартаснае. Як мала ў нас самастойнасці! Чалавеку, каб зразумець сябе і іншых, трэба ўмець выйсці з гушчы чалавечых памкненняў, застацца сам-насам у цішыні. Жыццё ў калектыве аблягчае, спрашчае адносіны і не пакідае магчымасці выбару. Усе на адной хвалі, у адным дыяпазоне.

Аўдыторыя на чацвёртым паверсе: у адчыненыя вокны разам са свежасцю заплывае пах гарэлага лісця. Восень парадкуе сябе...

13 кастрычніка

Кожную раніцу ўжо тыдзень займаюся deutsch. Адчай, разгубленасць перад неасягальнасцю мовы. Прывабліваюць нямецкія культура, філасофія. Прачытаць бы Гегеля ў арыгінале... Крайнасці? На шчасце, як нейкая ўладная рука трымае за каўнер і не дае забіцца ў кут, закрыць вочы, вушы. Магчыма, імя гэтай рукі – мэтанакіраванасць. Якая ж мэта? Штосьці незразумелае ў душы. Ва ўнісон з Русо напор пачуццяў, у якіх не магу разабрацца.

Надзя Рушава. Сустрэча з няшчасным бацькам у актавай зале галоўнага корпуса БДУ. Сказаў: “На паўгода хопіць яшчэ захаплення Надзяй...” Няпраўда! Яе непаўторным малюнкам жыць і жыць. Яму ж, асірацеламу так нечакана, страціўшаму цудоўную дачку, яшчэ падлетка, як жа невымоўна цяжка.... Тужлівая, чыстая сустрэча. І яшчэ раз пайшла паглядзець на творы Надзі – выстава ў Мастацкім музеі.

Ад мамы ліст. Мая мілая, светлая, спакутаваная мама...

17 кастрычніка

Запаведзь Андрэ Маруа: “Не папракай, не

жалься, не тлумачся”.

Зноў абвострана адчуваю сябе дзіцёнкам. Кідаюся з крайнасці ў крайнасць. Бяздарнасць! Няўмека! Мітусілася пару дзён. І разумею, што сутнасць не ў выніку хуткім, што галоўнае не збочыць, а рухацца ў абраным накірунку, часта насуперак самой сабе. Чалавек жа. Магчыма, жыццё – апраўдальны тэрмін. Што і хто я ў параўнанні з вечнасцю. Яна выкінула мяне на паверхню сваю. Каб убачыла, ацаніла мінулае, пераварыла ў сабе пакуты і шчасце, веліч і нізасць, прыгожае і пачварнае. Сведка руху. Трэба быць у вечнай змене дзён і начэй яго актыўным удзельнікам. Піць з чашы дабра і зла, мучаць сябе, каб стаць вартаю чалавечага звання.

21 кастрычніка

Учора, каб яшчэ крыху эмацыянальнага чытання, трывогі, працы ўяўлення, уражанняў і, думаю, што сёння я вось так не сядзела б у бібліятэцы. Дастаеўскі дзейнічае, што моцны наркотык. Але ж калі хочацца яго чытаць, значыць трэба. І ў стане гэтай узбуджанасці адкрываецца новае ў жывапісу, цягне слухаць 40-ю сімфонію Моцарта, песню Сольвейг. Паўтары гады з Дастаеўскім. Навучанне і вар’яцтва. Мазгі мае, што рыба, выкінутая на бераг.

Георгій Гуліа. “Жизнь и смерть Михаила Лермонтова”: “Но наше счастье – великое человеческое счастье – заключается в том, что бессильные изменить что-либо в уже сыгранной трагедии, мы можем изменить кое-что в своей собственной душе. Изменить к лучшему. И эта возможность – большая награда для нас”.

26 кастрычніка

Не выходзіць з галавы “Подросток” Дастаеўскага. Агульнасць. Я таксама гарачуся ў размове, пачынаю шмат балбатаць, а пасля шкадую. Перажываю і зноў паўтараюся...

Аднесла боты ў майстэрню. Здавала у рамонт падбітыя-перападбітыя туфлі і чаравікі сімпатычная дзяўчына.  На твары незалежнасць, а ў вачах сполахі прыніжанасці. Людзі рамантуюць абутак. Беражлівасць? Не толькі. “Хлопчыку няма ў чым хадзіць. Хутчэй, калі ласка, зрабіце”. Дзяўчыну шкада. Гэта між тым і мая заўсёдная сітуацыя. Божа, калі нарэшце кожны зможа абуць тое, што яму хочацца мець на сваіх нагах... Хоць пагоня за рэчамі вяжа чалавека, адымае час, сілы. Непераадольнай сцяной паўстае на шляху да свету гукаў, колераў, слоў.

Пасля Дастаеўскага не магу колькі дзён штосьці чытаць. Хаджу перапоўненая “Подростком”. Вядома, не з лепшых рэчаў  Дастаеў-скага. Найбліжэй мне хіба “Идиот”.  Ды кожны яго твор змушае думаць, непрыкметна авалодвае на пэўны час душой. Узялася за Стэрна, які цяпер здаецца сумным, нецікавым.

28 кастрычніка

Дома. Абняць і цалаваць бярозу, яе яшчэ красавіцкія раны. Дачакалася ў чарговы раз мяне, родная. Помні ж пра мяне заўсёды. Шорсткае цела, гнуткія рукі-галіны. Вецер, будзь, калі ласка, асцярожней. Карані працягнуліся да старога плоту, мяккай дарогі. І ў сэрца маё таксама. Упарта імкнуць услед за мной. Баляць адным болем. Вяртаюць дахаты. Чым цяжэй, тым мацней трымаюцца за зямлю.  Сасна, дубы. Мая, мае. Матуля. Рукі хачу цалаваць. Родныя. Што я без вас?! Доб-

рая зямля мая.

5 лістапада

Вечнае пытанне, што ёсць жыццё. І побач апошнія тыдні ў свядомасці – жыццё і смерць. Не страшна памерці. Позірк на востры нож і думка аб магчымым канцы. Пераход бялковых цел з аднаго стану ў другі. Спакойна ўяўляю сябе пад калёсамі цягніка, машыны. Шкада толькі блізкіх людзей. У самой жа пачуцці страху, жаху як выключаны. Цяжка сядзець з такімі думкамі над падручнікамі. Разумею, што нездаровыя думкі. І вынікам чаго яны? У такім стане магу чытаць толькі Дастаеўскага.... Лячуся ім? Добры Чэхаў, пяшчотны Паўстоўскі, рамантык Грын часова ўбаку аказаліся. А можа гэта ўва мне пераплаўляецца ўсё, што я ад іх змагла ўзяць?! На пэўным этапе, між іншым, быць робатам вельмі карысна. Бо дзеля чаго ўсе гэтыя мае пакуты, калі яны вынікаюць адно з душэўнай блытаніны? Розум пры тым толькі назіральнікам знешнім. Валодай я запасам ведаў, уменняў, каб штосьці карыснае для іншых рабіць, вось тады б гэтыя трывога, туга памагалі б мне далей сябе ўсведамляць. Цяпер жа мне трэба вучыцца, а не пакутаваць немаведама ад чаго!

9 лістапада

І колькі ж у мяне “я”?.. “Толькі не рысуйся, не выстаўляйся...” – дзяўбу ўвесь час сабе. Калі я не падманваю? Найлепш маўчаць паболей. Барацьба з эмацыянальнасцю, якая ў мяне проста неахайнасцю ўнутранай. У стэрыльных умовах, калі вакол добразычлівасць, яна цвіце сабе пунсовай кветачкай. Але ж побач з самаўпэўненасцю, скептыцызмам пераўтварае чалавека ў пужлівае мышаня.

Не атрымліваецца ў мяне працаваць на адным узроўні. За тры дні выдыхаюся. Настрой рэзка скача то ўверх, то ўніз. Абыякавасць і ўсхваляванасць. Бездапаможнасць і сіла. Галоўнае, што я нічога не магу зрабіць з сабой у такія часы. Душа і плоць у адным парыве. Галава губляе працаздольнасць. Быццам шторм усчыняецца і трэба непагоду у як мага найцішэйшым месцы перачакаць.

"Скрывайся, таися и молчи".

11 лістапада

Безабаронны, кволы парастак просіцца навонкі з душы. Вакол камяні, а ён моліць, каб расступіліся, моліць, а сам упарта імкнецца ўгору. Бездапаможнасць і прага выжыць, прарвацца. І ў ёй – сіла.

Відаць, мой цяперашні стан абумоўлены ў значнай ступені Дастаеўскім. Да яго можна адносіцца альбо зусім абыякава, альбо ўспрымаць кожнай жылкай душы. Зрэдку бывае, калі не магу чытаць Фёдара Міхайлавіча, але ў асноўным пачуцці напружаны, як струны ў толькі што наладжаным інструменце.

"Сердце (cor) представляет сабой полый мышечный орган конусообразной формы. Величину сердца сравнивают с размером кулака данного человека, вес его около 300 г.".

15 лістапада

У Мастацкім музеі – Чурлёніс. Фантастычнагукавыя палотны. Уражваюць і хвалююць уяўленне. Незвычайная імглістая колеравая прастора. Зачаравала "Казка каралёў". Заняцца б псіхалогіяй творчасці!

Шчасліваю вярнулася ад Яўгеніі Рыгораўны.

Знаёмства з яе сынам, нявесткай, унучкай Ірынкай. Адпачыла душою. У мяне, у мае магчымасці верацъ!

25 лістапада

Над горадам завіслі чорныя хмары. Высокія трубы спалучаюцца з імі сваімі курчавымі хмарамі дыму. Магутныя парывы ветру апантана кідаюцца на аднолькавыя вялізныя прамавугольныя скрынкі з аднастайнымі радамі зашклёных праёмаў. Вецер, пастух грозных хмар, аглушальна рагоча і настрашаныя хмары ляцяць, не ведаючы куды. У адчаі льюць на зямлю халодныя слёзы.

Люблю непагоду. Ды гэта ж якраз пагода – тэмпераментная, рухомая. Падстаўляеш ветру твар, ледзь не падаеш, а дыхаецца вольна-вольна. Люблю ачышчальныя вецер і дождж.

У Палацы мастацтваў – чатыры рэчы Барыса Заборава. Уражваюць! Вытрыманыя, эмацыянальныя. Акрамя псіхалагізму Дастаеўскага – нейкі засмучаны рамантызм. Міжволі – Паўстоўскі. Трэба б бліжэй пазнаёміцца з тэхнікай гэтых прац.

28 лістапада

Шмат гавару (балбачу!), але магу лічыць сябе скрытнай. Часта ўсміхаюся, але душу маю пастаянна мучае туга, якая расце разам са мною. Пераходжу ад нейкага нястрымнага вяселля да безвыходнасці. Лічу сябе разумным чалавекам, але амаль кожны дзень паміраю для сябе як чалавек. Мне трэба толькі крыху, каб забурлілі станоўчыя эмоцыі і дастаткова нейкай дробязі, каб зямля паплыла з-пад ног. Магу не любіць чалавека, а адначасова гатовая бараніць яго да апошняга. Здольная вытрымаць любыя боль, нават абразу моўчкі, а заплакаць ад аднаго крыўднага ці лас-

кавага слова. Я не магу жыць без Галі, Мілы, Іры, Наталлі Пятроўны... і ў той жа час бягу ад усіх. Хаваюся ў сябе. І ўсё гэта блукае ўва мне, распінаюся супярэчнасцямі. Не ведаю, калі стану цэласнай. Вядома, не ў адзі-ноце. Сярод людзей, але самастойна. Гэтыя мае роздумы – уплыў Русо?! Ці "Споведзь" проста штуршком?..

Колькі часу адымае медыцына! Трэба ж яе нам падкінуць на другім курсе. Я, здаецца, ніколі не здам анатоміі, не запомню, дзе якая мышца і костка размясціліся...

2 снежня

Учора ў Мастацкім музеі не магла адарвацца ад Станіслава Юльянавіча Жукоўскага. Зачараваў блакіт нябёс у шырокай вясновай вадзе. І побач з яркім блакітным – сакавіты бардовы колер. А які цудоўны, святлісты інтэр'ер у Жукоўскага!

5 снежня

Нарэшце дома з мамай. Ёй я найпатрэбней і найдаражэй, чым каму на свеце. Паплакала крыху на плячы ў Галі. І не ўмею я быць вернай запаведзям Андрэ Маруа! Жалюся, наракаю, тлумачуся. Arbeit und einmal Arbeit!

8 снежня

Хочацца як мага болей паспець зрабіць. Ахапіла такая моцная, свежая прага быцця, якой нават міжволі саромеюся перад сабой жа, быццам шчаслівая эгаістычна дзялюся сваёй радасцю з чалавекам, які мае патрэбу ў спачуванні... Нібы крылы выраслі, можа, праўда (уключана-такі іронія!), толькі стрыказіныя... Цэласнасць, чысціня. Далой песімізм! Мне трэба паменей разважаць аб жыцці, якое я так мала яшчэ ведаю, а працаваць

над сабой з дня ў дзень, гнуць спіну, вымучваць галаву і сэрца. Не ўмею сябе размяркоўваць, таму мушу быць вернай галоўнаму памкненню – спадзяюся, што настане дзень, калі змагу пісаць. Адсоўваю пачуцці сардэчныя, падпарадкоўваюся галоўнай мэце.

Віктар Шклоўскі: "В искусстве познание приходит через раскрытие значения того, что мы считаем простым. (...) Искусство всегда уходит от самого себя, разрушает прошлое для того, чтобы вернуться к нему с новым пониманием. (...) Сюжет – это то построение предметов, при котором они видны, при котором они обновляются, освежаются так, как земля освежается и весной и осенью новым своим цветом – цветом сегодняшнего дня и воспоминания, законченным разнообразием в жизни".

15 снежня

С. такі скупы на лісты. Некалі думалася, што ніколі не буду сварыцца з любым, ніколі не папракну яго, а ён – мяне, што нам не прыйдзецца саступаць адно другому, бо не будзе дзвюх думак, шляхоў. Адчуванне, што пяройдзена нейкая рыса. Хто вінаваты? Абое і ніхто. Само сабой вядзецца. І ўжо я перастаю сумаваць па яго лістах...

"Выдатна" па фармакалоіі – перамога! У паветры цесняцца легкадумныя навагоднія малекулы. Які цяжкі і добры год прамінае... Не магу маўчаць, калі ў мяне радасць, мушу сыпануць жменю яе ў паветра, каб вясёлкаю заззяла над чалавечымі душамі. Я веру, што Дабрыня і Прыгажосць, з'яднаўшыся ў імя святла і любові, паставяць тлусты крыж на крывадушшы, пошласці. Выратуюць свет!

22 снежня

Хтосьці ідзе сваёй жыццёвай дарогай, унурыўшыся сабе пад ногі, не звяртаючы ўвагі нават на сустрэчных. Вецер эпохі праносіцца над яго галавой, не кранаючы акуратненька зачэсаных валасоў. Другі ж кожным нервам успрымае рытм сучаснасці і ўсе часы пульсуюць у ім стваральным зместам. Аркестр з імёнаў, падзей, дат, твораў, адкрыццяў магутнай, глыбокай музыкай напаўняе душу таго, чые вочы сур'ёзна і ўдумліва, з прагай пазнання новага ўглядаюцца ў свет.

27 снежня

Як жа я ўчора шмат гаварыла – быў удзячны слухач. Ганна Давыдаўна Краснапёрка, журналістка з "Піянера Беларусі". Відаць, найлепшы спосаб разгаварыць іншага, самой быць шчырай... Суправаджала яна былых юнкораў на сустрэчу ў піянерскі лагер "Зубраня". Коля Мятліцкі – некалі дадасць да свайго імя розныя тытулы. Кацярынка Кункевіч – чыстая, светлая душа, серабрысты голас. Карпусы "Зубраняці" атулены велічэзнымі соснамі. Шкада, што Нарач пад ільдом, у зімовым сне. Як добра было б сюды летам патрапіць... Упершыню ў мяне такое доўгае падарожжа на легкавушцы атрымалася. І як хочацца паболей паездзіць па Беларусі...

Каб меней гаварыць, мне трэба болей пісаць. Раптам усведамляецца, што неўпрыкмет для самой жа сябе шукаю сваю тэму. У вастрыню, займальнасць не мае сэнсу ўваходзіць. Духоўны свет. Аналіз плыні душы. Прырода. Зрэдку зараз мільгане ў дзённіку цікавы запіс, а найбольш усё маё самавыхаванне... У галаве блукаюць нейкія ўрыўкі сказаў, відавочацца твары, характары. Нават пакутліва рвуцца на волю, а дзверы для іх зачынены. Я

не магу іх “апрануць” , каб пусціць на свет белы. І яны мучаюць мяне далей, штурхаюць да кніг, да людзей. І я іставa прашу: “Памажыце мне, Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі, Канстанцін Георгіевіч Паўстоўскі, Іван Аляксеевіч Бунін. Навучыце пяро маё быць дакладным. І Вы, Ларыса Міхайлаўна Рэйснер, вы грацыёзная і цвёрдая не толькі з ручкаю над белым лістом, але і ў днях сваіх, памажыце мне знайсці сябе. Вы, Антон Паўлавіч Чэхаў, лячылі не толькі ангіну, але і запаленне душ. Я не прашу Вашых рэцэптаў, але, калі ласка, навучыце мяне Вашай справядлівай дабрыні. Эдвард Грыг, сын суровай Нарвегіі, памажыце мне стаць пяшчотнай і моцнай. Навучыце мяне цярпенню, спагадлівасці і патрабавальнасці, дарагія мне людзі. Дай мне сілы, зямля мая, навучы ўпарта ісці наперад і ў спякотны полудзень і ў бялесую завею. Стань мне братам, гром раскацісты, маланка асляпляльная. Вясёлка сяміколерная, жывым шалікам ляж на мае плечы”.

28 снежня

Залік па анатоміі. Узіраюся ў людзей: абыякава праходзяць побач. Кожны нібы намагнічаны асаблівай энергіяй, якая ўцягвае яго толькі ў пэўныя адносіны. Сёння Н. пахваліла мяне. Натуральна, я зразумела ў чым справа, але ж словы яе пагладзілі маё самалюбства! Ворага майго. Толькі б не спатыкнуцца, бо хаджу нібы па вастрыі ляза. Не шкадаваць сябе! І як хочацца да мамы...

31 снежня

Зноў апошні дзень года, які падаецца самым кароткім – значыць, самым хуткім?! – у маім жыцці. Галоўнае? а) Шэкспір, Дастаеўскі, Ахматава, Цвятаева; б) сустрэча з С.; в) бульба. Зачыт-

валася Чэхавым. Жывапіс. Выставы Хамера, Надзі Рушавай. Заглыбленасць. Адначасова мала і шмат.

Я не ўмею сябраваць са святамі. Развітанне і сустрэча – глыбока ў душы.

1студзеня, **1974**

Пачатак гэтага новага года пазначаны ўнутранай пэўнасцю. Прачнулася з дакладным усведамленнем таго, што трэба рабіць. Адчулася, што трывалей, надзейней зямля пад нагамі. Старацца пераадолець сваё знешняе дзівацтва. Гэтую сарамлівасць, схаваную пад знешняй бесклапотнасцю. Адразу хочацца засесці за кнігі і да знемажэння чытаць, вучыць, перакладаць. А ўвечары кінуцца на ложак – змучанай, але задаволенай днём. Мае кнігі, мая ручка – сябры мае, мучыцелі мае, натхніцелі мае. Трэба замкнуць свой слых і зрок ад розных спакус, каб пасля не было балюча за расстрачаныя надарэмна хвіліны і гадзіны, з якіх само жыццё складаецца.

2 студзеня

Сказала маме, што хачу гаварыць на чыстай беларускай мове, паўсюль і з усімі. Па-беларуску, па-роднаму шапаціць мая бярозка, гамоняць са мной дубы на беразе Пцічы, шчабеча і спявае птаства. Гэта мая аснова, той свет, які нашу ў сабе. Працярэбліваюцца знутры парасткі, цягнуцца да неба, у вышыні сусветнай гісторыі, высокамастацкай літаратуры. З роднай зямелькі імкнуся я ўгору, калоціцца сэрца – навучы мяне, зямны шарык, як правільна жыць. Дай мне крылы, каб дрыготкія рукі кранулі мяккае і цвёрдае, гарачае і студзёнае. Каб сэрца зайшлося ад шчасця і горычы, каб не прайшла абыякава побач з бусінкай-слязінкай у дзіцячых вачах, побач з нямогласцю ста-

расці. Каб перадала прывітанне вялікаму свету пад Млечным Шляхам  ад маіх бярозкі і пцічанскіх дубоў і вярнулася да іх  мудрай і моцнай...

3 студзеня

Непрабачальны спакой перад цяжкім экзаменам, а плаваю ж! Хоць што значаць усе гэтыя назоўнікі і дзейнікі ў параўнанні з жыццём!.. Што значу я ў параўнанні з вечнасцю... Мае вартыя жалю памкненні адкалупнуць кавалачак бясконцасці ад вялікаснай неабсяжнасці і  ўвапхнуць яго ў сваю душу, проста зняволіць...

Якая блізкая Наталля. Пятроўна! Дарагая настаўніца мая. Пашанцавала  нам і асабліва мне, што размеркавалі яе пасля Інстытута ў Дараганава!  Так, так: “Шчасце дастаецца таму, хто шмат працуе”. Убіраю ў сябе новыя і новыя твары, падзеі. Сэрца калоціцца. І ад мяне самой  усё залежыць. Моцная ж сваёй верай у дабрыню, справядлівасць. Нясу ў сабе каштоўнае  зярнятка любові да людзей і як ні патэтычна гэта гучыць – пакуту за збалелае чалавецтва. Няхай часам трушу, выходжу з сябе, патанаю ў няпэўнасці, злуюся, зайздрошчу, але ўва мне ўсё адно ёсць святло. І яно паступова перамагае слабасць. Толькі вельмі-вельмі павольна...

5 студзеня

Захацелася напісаць пра тое, якая цудоўная музыка Грыга, як я люблю Оперны тэатр і Мастацкі музей. Як яны набліжаюць да мяне маю бярозку. Як б’ецца сэрца, калі адкрываю Паўстоўскага,  якія  сапраўдныя мае дзяўчаткі, мае Галі, які  далікатны і моцны  чалавек Наталля Пятроўна.  Наплываюць урыўкі  тэкстаў...

7 студзеня

Пяцёрка па рускай мове. І трэба было так хваляваццa? Значыць, магу вывучыць.

Увесь час сняцца дзівосныя сны. Містыка. Загадкавасць. І вада, вада. Мора, якога я ніколі наяву не бачыла. Рака. Вясенні разліў. Гартаю альбом са сваімі газетнымі выразкамі. Радкі, поўныя шчырасці, чысціні. І хочацца плакаць. Два, тры гады таму я верыла, што перада мною ўвесь свет расчынены, а цяпер ныю і гатовая здрадзіць гэтым сваім наіўным, але прыгожым і адзіна справядлівым (!) перакананнем. І тады ж было цяжка... Можа таму і пісалася?.. Каб стварыць свой свет. А цяпер, калі водбліск дзяцінства, юнацтва ляжыць у гэтым альбоме, калі сама адказваю за свае ўдачы і памылкі, сама адказная за свой настрой, раптам строю з сябе вяліка-мучаніцу. Несправядліва!

17 студзеня

"Выдатна" па гісторыі. Ну і панікёр я – як калацілася. Зарубежка таксама за спіной. Сесія ўдалая. У "пяцёрачніцы" выбіваюся.

Кожны чалавек – кніга... І. Бунін: "Не всё ли равно, про кого говорить? Заслуживает того каждый из живших на земле ("Сны Чанга")".

Н. гаворыць так гладка, без запіначкі, але словы не кранаюць, слізгаюць па душы. Чаму?

Дзяўчынка паступала ў Тэатральна-мастацкі інстытут, не хапіла паўтары бала, а праз год пайшла ў Наргас...

20 студзеня

Пакутліва, калі хочацца заснуць і не прачынацца доўга-доўга. Блукала ў глыбокім неспакоі, тузе па скаванай рацэ між сваіх вечных дубоў.

Адзінота. Адчуванне, нібы чалавечыя бядота, боль непасільнай ношай леглі на мае плечы. І сорамна, крыўдна, горычна. Слабасць, немагчымасць стаць усім, паспрабаваць усё – адчай перад Вечнасцю, Бясконцасцю. Круглы шарык – Зямля. У шэрагу падобных дзесяці вакол вялізнага пылаючага магніта-шара. Праспекты Сусвету. Што на іх?!! Вабіць прастора. Існуюць жа яшчэ недзе цывілізацыі акрамя нашай планеты. Надыдзе ж дзень, калі велічны зямны карабель вялізнаю птушкаю сядзе на залацісты россып пяску на іншай зямлі... Вось як настрой павярнуўся!

26 студзеня

Нарадзіўся новы "выдатнік". Мілая Ларыса Лявонцьеўна. Як хочацца прыляпіцца да моцнага, добрага чалавека... Я звычайная дзяўчына. З прагай ведаў, памкненнем да гармоніі, спасціжэння сэнсу ва ўсім. Хачу пець і таньчыць, бегаць на лыжах і каньках, іграць Грыга, фатаграфаваць, маляваць, вадзіць машыну... І гэтыя жаданні сціплыя і апраўданыя. Хачу жыць. Усімі пяццю пачуццямі прасякацца радасцю. А я існую. Я толькі мару аб жыцці. Адно ў сне спяваю любімыя песні. Што ж, буду чытаць Буніна.

5 лютага

Сваю даму сэрца, юную Беатрычэ Пятрарка сустрэў упершыню на ранішняй месе ў царкве св. Клары ў Авіньёне. Было гэта 6 красавіка 1327 года.

Дома. Канікулы. Заняцца б грунтоўна гісторыяй філасофіі...

Адкрыліся далягляды, аж дух займае – уздым пасля заняпаду! Надалей бы затрымацца ў гэтым сваім стане, які, зразумела, непазбежна знясіліцца. І чым вышэй узыходзіцца, тым ніжэй сыходзіцца.

Эфект арэляў.

12 лютага

Ужо засумавала па філфаку за два тыдні. І рада, што пачаўся новы семестр. На жаль, заняткі з дзвюх гадзін – разбіты дзень. Размова з Данутай – адзіны чалавек у групе, з кім магу быць шчырай. Спадабалася лекцыя па філасофіі. Была ў Мастацкім музеі.

23 лютага

Раптам засумавалася па бабулі Надзі з Лобчы, аж у грудзях шчыміць. Што ў яе там? Мы адказныя за тых, каго прыручаем...

На медыцыне павяла нас Валянціна Мікалаеўна ў радзільнае аддзяленне трэцяй клінікі. Божа мой, у якіх пакутах нараджаецца новае жыццё! В.М. да спакутаванай парадзіхі: “Ну, Танечка, не можам жа цябе так адпусціць. Пастарайся яшчэ крыху...” Пакуты, напружанне. Цяжкая фізічная праца. А ён, дзіцёнак, не хоча выходзіць. Нарэшце выслізгваюць галоўка, плечыка, ручка. І вось само Яно. Дакладней, ён. Галоўка выцягнутым агурочкам і ўвесь дзіцёнак фіялетавы. Нарадзіўся чалавек! Ды якім незадаволеным крыкам лялечка са зморшчаным тварыкам вітае гэты свет, нібы ведаючы, што ніколі і нідзе не будзе ўжо яму так надзейна і ўтульна, як у маме-доміку. Акушэрка робіць нейкія маніпуляцыі над немаўлём, узважвае. Нам жа за храбрую прысутнасці па цукерцы выдадзена!

Прапанавалі стаць ад філфака карэспандэнтам “Беларускага ўніверсітэта” .

5 сакавіка

Велізарны свет шорсткай шчакой трэцца аб

яе сэрца. Свет, але не ён. Вечнасць абяцае ёй усё, відаць, забыўшыся, што без яго – усе падарункі стаюцца сабачанём-тугою, якая скуголіць у падваротні. Дзе ты, адзін-адзіны? Адзавіся. Ёй так цяжка ўтрымацца адной. Рукі над светам, нібы голле бярозы ў непагадзь. А на другім канцы зямлі велізарны свет трэцца шорсткай шчакой аб яго сэрца. Хутчэй – ідзіце насустрач адно другому...

11 сакавіка

На адным дыханні прачытала “Один день Ивана Денисовича” Аляксандра Салжаніцына. Вельмі цікавы, праўдзівы твор. Чаму наклалі на яго veta?!! Спыніліся на палове шляху. Недапушчальна падмалёўваць, змешваць колеры ў сферы, дзе вырашаецца чалавечы лёс. Палітыка?!! А што гэта такое? Крыўдна. І як жа балюча пісьменніку! Некаму не падабаецца, што Салжаніцын гаворыць аб пакутах адных і бесчалавечнасці другіх. Хіба ж палон падчас трагічных ваенных падзей можа разглядацца як віна? Мне сорамна. Да чаго ўсё ідзе? Камсамол. Жахліва. Папера ўсё вытрымае. Ды так не павінна быць! Ленін – ці маю права судзіць? Так, маю. Хачу, каб жыццё было справядлівым да ўсіх. І зараз буду ратавацца рамантыкам Віктарам Гюго...

26 сакавіка

З Опернага – “Севільскі цырульнік”. Цудоўна. Імгненні, калі захапленне збіраецца ў грудзях свежым азонавым паветрам, якім не можаш надыхацца.

Н.Ш. – мілая дзяўчынка. Ды бачыць толькі кепскае, жыве з надрывам. У дзевятнаццаць гадоў чалавек, аднак, не мае на гэта права. Зашмат ахвяр перад намі і дзеля нас. Праўда ў працы, пасля-

доўнасці.

“Калі б газету называлі ручніком, а ручнік газетай,” – шасцігадовая Тацянка.

2 красавіка

Сорамна глядзець людзям у вочы. Працякае скрозь пальцы надарэмна час. Хочацца збегчы ў музыку...

А. гаворыць: “Навошта табе забіваць галаву нямецкай, сербахарвацкай мовамі. Вось філасофія – справа сур’ёзная”. Е.Г., у сваю чаргу: “Ты засушыш сябе філасофіяй. Вучы нямецкую. Мала? Бярыся за французскую. Толькі не забівай сабе галаву Арыстоцелямі і Платонамі...”. Сыходзяцца ў адным: чытаць, чытаць.

10 красавіка

Жорж Санд. Аўрора Дзюдзеван. Запомнілася з нейкіх ранніх гадоў рамантычным раманам “Кансуэла”, а зараз – адкрыццём яе лёс праз Андрэ Маруа ў серыі “Жыццё выдатных людзей”. Кропкі судакранання: распуста і чысціня, праўдзівасць і ілжывасць, дабрыня і гнюснасць. Ці не зашмат для аднаго чалавека?!

“Вайна патрэбная, каб страсянуць чалавека. Колькі героеў адразу з’явілася...” – гавораць дзяўчаты. І далей: “А то сумна...”. Жах. Ну вось, гэта вынік таго, што жывуць як набяжыць, не задумваючыся, што ад кожнага чакаецца, каб здзейсніўся найперш у сваім.

12 красавіка

Кепска. Нярвовая ўзбуджанасць знясільвае. Мне снілася Жорж Санд! Праца, праца. І немагчыма увесь час трымацца ў стане пад’ёму... Джардана Бруна. Я ўваходжу ў вялікае, а пасля

адхіляюся, блукаю, каб зноў спрагнелай вярнуцца і прыпасці да крыніцы, прасякнуцца зместам яе. І чым далей, тым уладней прыцягвае мяне гэтая пакутна-цудоўная таемная крыніца...

Памёр Мікалай Ціханавіч Александроў. Алгебра, геаметрыя на беларускай мове з вуснаў афіцэра-франтавіка, не аднойчы параненага. Высокі, заўсёды падцягнуты. У дзесятым класе я хадзіла ва ўсе школьныя гурткі. У матэматычны таксама. Школа пусцее...

Што ўва мне, з кім я? Жыццё па-за Мінскам падаецца цацачным і выпадковым. Я там, дзе мае кнігі, тэатр.

Андрэ Маруа, “Жорж Санд”: “Вся жизнь направляется скрытой метафизикой. Философия Санд была простой. Мир сотворен добрым Господом Богом. Сила любви, живущая в нас, дана нам им. Единственный грех, который не может быть прощен, – это намеренное умолчание и ложь в любви, тогда как любовь должна быть полным единением душ. Я не говорю, что Санд всегда жила по этим принципам, никто из нас не живет всегда по велению своих идей, но нужно судить людей по достигнутым высотам, а не по их падениям”.

15 красавіка

Суботнік у панядзелак. Камуністычны. Сорамна. Згрэбсці лісце, абкапаць пару дрэў. Вось і ўсё.

Можа, мне сапраўды не варта займацца філасофіяй? Але ж мазгі галодныя, патрабуюць харчу. Разумовая дыета, устрыманне невыносныя. І адначасова штосьці ў тых мазгах не спрацоўвае, нейкія вінцікі варочаюцца, што груваcткія мельнічныя жарнавы. Страсць да філасофіі, думкі. Без

дэмакрытаў і арыстоцелеў унутраная бура зрывае раўнавагу і як цяжка вяртаць яе...

Люблю людзей. Не задумваючыся, магу кінуць сваё сэрца на ахвярнік, калі гэта зробіць усіх шчаслівымі. І адначасова, калі ў тралейбусе прападаюць перададзеныя талоны, чырванею, нібы ўсе думаюць, што гэта я іх прысвоіла. І нейкае пустазелле ўсё глыбей пускае ўнутр карэнне. Працаваць, каб плённа напружвалася кожная жылачка. Я зашмат энергіі марную на ўціхаміранне сябе ж. Тапчуся на адным месцы пад нізкай столлю. Не хапае паветра. Трэба ж кінуцца ў бурную плынь, каб не было магчымасці аглядацца назад, каб стыхія і супраць маёй волі несла ўперад... І як Зямля, перапоўненая няздзейсненымі чалавечымі лёсамі, не сыйшла яшчэ ад горычы з арбіты...

21 красавіка

У Мастацкім музеі выстава твораў з калекцыі Лежэ. Канаючы раб Мікельанджэла, Венера Мілоская. Такая даўніна, што перахоплівае дыханне – вестуны, сведчанні жыцця, поўнага супярэчнасцей, гарэння. Пакланенне, гонар, захапленне. Дзяцінства і спеласць чалавецтва працягваюць руку ў сённяшні дзень. Хіба славалюбства рухала Праксіцелем, Фідыем? Не!!! Яны ўсведамлялі сябе людзьмі, адказнымі перад Вечнасцю за ўкладзены ў іх талент. І ты, чалавек сённяшні, прасякніся іхняй энергіяй, адчуй агульнасць памкненняў, мэтаў...

І. Бунін, аўтабіяграфічная “Жизнь Арсеньева“ – такі светлы чалавек. І трагедыя: Расія загінула. Незвычайны чалавек, але ці не залішне арыстакрат...

2 мая

Няўжо для таго, каб адчуць гонар за сваё вясковае паходжанне, трэба было пражыць амаль два гады на пятым паверсе?! Няхай вяскоўцы, здараецца, у дробязях бываюць занудлівымі, бурклівымі. Вось, выкарчоўваецца клён, каб вызваліць месца для пасеву. Прыгожы быў? Але месца займаў!.. Ды праз аддадзенасць, вернасць зямлі, выяўляецца галоўная жыццёвая надзейнасць, якой так часта бракуе гараджанам. Нездарма цёця Ніна хоча ў вёску, марыць пра свой домік з зямлёю.

7 мая

Зямля наструнёна чакала вышэйшага распараджэння І вось яно аддрукавалася на ёй дажджавымі кроплямі – весткай аб чаканай залеве. Нібы па камандзе пырснула зелень, пяшчотным смарагдам заліла ваколіцы. Кожную вясну нехта мудры і бясконца добры творыць новую зямлю. На змену імгненнай вясне прыходзіць спякотнае лета, якое паглынае залаціста-багровая восень...

Зразумела, што веды развіваюць, прачышчаюць мазгі, абвастраюць разумовыя працэсы. Але ж ёсць у кожным чалавеку яшчэ штосьці важнейшае, большае, што якраз і робіць з яго Чалавека. Адчуваю. Думкі ўзнікаюць незалежна ад мяне. І я гэтаму руху, здаецца, часам толькі замінаю... Цяпер жа ад мяне патрабуецца адно: чытаць, вучыць.

10 мая

Такая імгненнямі густая, беспрасветная туга пасярод горычы, расчаравання, што нават крок зрабіць цяжка. Адкуль?!! Я не цынік. Умею радавацца кожнай зялёнай травінцы, жывой кроплі

дажджу на шыбіне. Мне часам хапае адной усмешкі чалавечай, каб усё навокал заззяла. І боль, стогн знутры. Дзіця і старэча. Вынікам чаго гэты пакутны стан? Бесперапынны паядынак з сабой, але не з іншымі...

“Госпожа Бовари” Густава Флабэра. Проста і захапляльна – ад пачатку і да канца суперажыванне Эме, яе гору. Пераклад з французскай. А ў арыгінале? Якая магутная літаратура! Вялікая мара: чытаць па-французску і Флабэра, і Бальзака.

“Брацкая ГЭС” Яўгенія Еўтушэнкі – незвычайна адпавядае маім цяперашнім думкам. Банальныя словы, але паэма пульсіруе нашым часам.

Каб жа гэтым летам папрацаваць праваднíцай! Даўняя мара аб падарожжах, новых даляглядах, маё дзіцячае захапленне гаспадынямі цягніка “Калуга – Баранавічы”...

19 мая

Вось так: крах маіх планаў! Іншая дзяўчынка будзе раздаваць разам з бялізнаю па рублю сныказкі, рабіць утульным жыццё пасажыраў пад стук калёс. Штаб, рэзерв, паліклініка. Вакзал... Дні нібы ў тумане. Аднак жа з 15 ліпеня пастараюся ўладкавацца хоць пасудамыйкай у вагон-рэстаран – адзіная магчымасць патрапіць на чыгунку. Упакорваю сваю гардыню...

Цяжка чытаецца Бальзак. Быццам глыбы варочаеш, а не адарвацца ад катаржнай працы. O tempora, o mores! Якая бездань чалавечай слабасці, нізасці...

27 мая

Чакала, калі зацвіце бэз. Разгарнуўся дзівосным сваім фіялетам-водарам, а на душы па-ранейшаму кепска-кепска. “Дзяўчына, вы вельмі прыго-

жа ўсміхаецеся. Усміхайцеся часцей...”

Вера Міхайлаўна: настаўнік ў школе і ў вышэйшай навучальнай установе не адно і тое ж. Выкладчык павінен вучыць, а не пытацца. Студэнт самастойны. Адказнасць.

Захацелася прачытаць усяго Кузьму Чорнага.

1 чэрвеня

Развіталася з залікамі. У Мастацкім музеі Польская выстава. Сэлінджэр – пазнаю сябе. Свой почырк. Ёсць жа выхад і ў нібы безвыходнасці, пакуль чалавек жыве... Думкі, бы воблакі, якім нібы ўсё адно, дзе выліцца. Засумавала па маме.

Вяршыня душы чакае альпініста, каб пераможанай пераможцай побач па жыцці ісці...

Каб адчуваць сябе сапраўды шчаслівым, трэба быць запатрабаваным людзьмі, але не акцэнтавацца на гэтым свядома. Жыць клопатамі іншага чалавека як сваімі. Мы таму не баімся страты паветра, бо нам не адпускаюць яго порцыямі. Дыхаем, колькі лёгкім трэба, рушымся, усміхаемся і не дзякуем кожную хвілінку, што карыстаем яго. Так і добрыя справы: яны без цябе могуць абысціся, а ты без іх ніяк. Яны – паветра сэрца.

5 чэрвеня

Гатовая цэлымі днямі слухаць музыку. Рахманінаў, Берліоз. Дыханне то паскараецца, то запавольваецца. Музыка ахоплівае ўсю істоту. У незвычайнай цэласнасці ўпакорваюся духоўнай сіле гукаў. Ашаламляе моц у кволасці. Музыка як нейкае прароцтва. Штосьці ўва мне, невядомае ж мне, адзываецца на магутныя хвалі поклічу гукаў... Хачу на мора! Музыка і мора – саланаваты смак гукаў.

12 чэрвеня

Адведалі з Галяй Анну Дзянісаўну. Дарагая наша першая настаўніца, усё тыя ж добрыя вочы, клопат пра дзяцей-вучняў. Ужо ж мы дарослыя! Побач з добрымі людзьмі робішся сам лепшым.

Прагнуць усяго і насіць у сабе абыякавасць. Надыходзіць жа такі момант, калі сыходзяцца паралелі.

16 чэрвеня

Учора ўвечары выбралася ў аэрапорт. Каля Батанічнага саду ў тралейбус зайшоў мужчына. Дакладней, спачатку цудоўныя ружы – алыя, пяшчотныя як ранішняе неба, а пасля ён сам, хударлявы, у цёмных акулярах. Як жа кахаюць, мабыць, тую жанчыну, якой шчасце прыносяць вось так проста цэлаю ахапкаю!.. Ён жа нечакана падзяліўся: “Вось іду і не ведаю, ці прымуць...”

Выпіць малочны кактэйль, з’есці піражнае ў буфеце аэрапорта, нібы і я перад дарогай. Доўга-доўга сядзець на лаўцы і ўглядацца ў поле аэрадрома. Цёмнае неба. Вялізныя птушкі “Ту” і “Аны”. Ліліпутамі шавеляцца каля іх людзі. Шум, рокат матораў, уздрыгвае зямля. Яшчэ адна сталёвая махіна апускаецца на ўзлётную паласу, падрульвае бліжэй. Выходзяць людзі. Відаць, яшчэ ў палоне руху, хуткасці, вышыні. Шчаслівыя! Разгар лета, а ночы прахладныя. Захінаюся ў плашч. Паволі падымаюся па ўсходах. Колькі хвілін – і аэрапорт застаецца за спіной. Мінаю прыпынкі, іду па любімым начным горадзе, стамляюся да знемажэння і супакойваюся, каб на наступны дзень зноў распачаць змаганне з сабой. Туга, няпэўнасць. У снах то гавару па-серба-харвацку, узгадваючы натужліва словы, то караскаюся на стромкае дрэва. Ледзь не лячу ўніз, але

неяк кошкаю чапляюся за ствол і ўсё пакуль што абыходзіцца...

20 чэрвеня

Амаль студэнтка трэцяга курса, і сесія, як ні дзіўна, на выдатна здадзена. Неспадзяванкаю, што трэба шукаць сабе новае месцажыхарства. Шкада. Не надта падрыхтаваная я да такога павароту. Ды Надзя выходзіць замуж. Удзячная бясконца Станіславу Пятровічу – літаральна, ён мяне выратаваў. Два гады, маё ўрастанне ў гарадскі лад жыцця. Ужо я пасталела, крыху магу за сябе пастаяць, але ж у інтэрнат нават пісаць заяву не буду, бо наўрад ці мне па сілах вытрымаць у адным пакоі з трыма ці пяццю асобамі. Тры месяцы, каб знайсці кватэру. Што ж, на новым месцы жыццё павінна пайсці таксама па-новаму. Мушу стаць самастойней. Тужліва аднак, што побыт у Шушкевічаў заканчваецца...

21 чэрвеня

Памёр маршал Жукаў. У цягніку былы франтавік, некалі разоў паранены: “Толькі пачуюць, што Жукаў тут, а яго можа і няма, а настрой адразу падымаецца, ідзеш, крычыш...” Што тут яшчэ можна дадаць?..

22 чэрвеня

“Мёртвым не баліць” Васіля Быкава. Кожнай жылкай-нервам перажываеш вайну. Трагедыя, героі і здраднікі, нікчэмнасць, перамога чалавечнасці.

“Из прошлого“ Анастасіі Цвятаевай – у захапленні I нахлынулі горычныя думкі пра ўласную недастатковасць. Колькі б я ні старалася, а недахоп выхавання ў раннія гады не кампенсаваць, не

перакрыць... Гібрыд вёскі і горада.

25 чэрвеня

Клён, дубы, сонца глядзяцца ў жывое люстэрка. Ківаецца вышка, а з ёю і я, адлюстроўваючыся ў павольнай тут пцічанскай плыні. На Хлапчурскім ціха-ціха. Бліжэй да берага малькі б'юцца галоўкамі аб плёнку вадзянога люстра, а яно ўздрыгвае і разбягаецца маленечкімі кругамі. Глыбіня засмоктвае ў сябе. Быццам вялізныя гіпнатычныя вочы неадрыўна сочаць за кожным тваім рухам. І чым далей, тым адчувальней сіла гэтага містычнага позірку. Зрываюся з месца, сунуся ўздоўж берага да мастоў. Іх цяпер два. Латаны-пералатаны стары драўляны, на паламаных парэнчах якога хто толькі ні пакінуў сваіх аўтографаў. І новы – узняўся, выцягнуўся над сваім папярэднікам роўным жалезабятонным целам, якое яшчэ нейкі час мусіць пад сонцам і ветрам умацавацца, каб пераняць ужо тут назусім рух над Пціччу...

Не хачацца на дыялекталагічную практыку, але ж не абысці яе.

30 чэрвеня

Зарэчча Жлобінскага раёна. Нас пасялілі ў школе. Восьмы клас, кабінет біялогіі з чучаламі, муляжамі – такая разнастайнасць, створаная рукамі настаўніка і вучняў. Тут жа і сякера з каменнага веку, розныя неймаверна даўнія каменьчыкі.

4 ліпеня

Бабка Люба У хаце распяцце, іконы. Проста жыць. Дзяжурства на кухні. Усё часцей заўважаю за сабой пытанне, звернутае да сябе ж: а што

сказала б у пэўнай сітуацыі Вера Міхайлаўна? Не хапае культуры. І толькі праца, праца – адзінае выйсце.

9 ліпеня

Быў Жлобін. Цёплая летняя залева. Цягнік "Жыткавічы – Мінск". Паўзмрок у вагоне. Утульна ехаць у дождж. Быццам нехта разам з табой не спіць, мурлыча калыханку, наклікае добрыя думкі. А сёння – першы працоўны дзень. Стажорскі рэйс. Куды? Нават страшнавата. Апранаюся і лячу. Шкада, што не пабачылася з Верай Міхайлаўнай. Паменш балбатаць, наіўнае дзіця! Чуеш! Глядзець. Глядзець і слухаць. Нібы перад скачком з вышкі на Хлапчурскім.

12 ліпеня

Азоўскае мора. Незразумелая сіла сціснула душу. Ад прыгажосці ў прамым сэнсе галава пайшла кругам. Каўказ, горы. Рэйс "Мінск – Кіславодск". З якімі цудоўнымі маладымі людзьмі я пазнаёмілася! Студэнты Лейпцыгскага універсітэта. І гаварылі мы ў асноўным па-нямецку! Як здорава: студэнт-філосаф Райнэр любіць Паўстоўскага. Кропкі судакранання. Шкада было развітвацца. Дзякуй мілай Ларысе Іосіфаўне! Дарагі наш дырэктар сама пайшла мыць посуд, а мяне адпусціла пасядзець з такімі ганаровымі гасцямі вагона-рэстарана.

16 ліпеня

Выйшла ў Пяцігорску, каб адведаць месца гібелі Міхаіла Лермантава. Гара Машук. І не магу прабачыць сабе, што не ўзяла з сабой кветак... Тужлівы дэман у парку. Музей Ярашэнкі. Нахадзілася па Кіславодскім парку. Няўжо гэта я,

менавіта я,  на такое хараство спазіраю, прасякаюся ім?!

21 ліпеня

Сапраўднае навучанне патрабуе зацішша, самоты. Каб запал, гарэнне падтрымліваліся самімі кнігамі, вялікімі думкамі ў іх. І чалавек, вольны ад дробязных клопатаў аб сваім целе, хутчэй імкнецца ўслед за духам. Падпарадкаваць сваё цела стваральнай ідэі, нейтралізаваць у сабе жывёльнае, разгарнуць плечы, адарвацца ад зямлі – гэта  імператыў, неабходнасць, каб не згубіцца ў часе і пасля не стагнаць аб страчаных магчымасцях.

Заканчваецца мой дараганаўскі адпачынак паміж  рэйсамі. Заўтра вяртаюся ў Мінск. Наперадзе  чатыры  падарожжы маршрутам “Мінск – Сімферопаль”.

31 ліпеня

Блукала па ціхіх вузкіх вулічках сонечнага Сімферопаля. У Мастацкім музеі. І нарэшце сустрэча з Чорным морам: дзіўнае пачуццё, калі першы раз трапляеш некуды, а быццам вяртаешся ў добра знаёмае месца... З Сімферопаля ў Алушту тралейбус так лёгка, радасна  каціўся асфальтам сярод гор, кіпарысаў, цудоўнай крымскай прыроды. Восем гадзін суцэльнага шчасця. Пасля зноў завалы бруднага посуду, прабежка па вагонах: “Салодкае любяць добрыя людзі! Купляйце цукеркі!”. Цікавыя выпадковыя сустрэчы і знаёмствы. У адным купэ мілая жанчына чытала “Личность Достоевского“ Б. Бурсава –  абавязкова знайсці гэту кнігу! І празмерная стомленасць, нават злосць, калі хочацца накрычацца, але ж вакол крычаць амаль усе, таму лепш усміхнуцца

са сваёй слабасці, што суцішвае і некага побач. Вось і ружа Гены-повара, на прымірэнне. Здзіўленне і ўдзячнасць прылюдныя за тое, што змаўчала, калі ён выйшаў з сябе.

12 жніўня

Трэці дзень каля мамы. Адходзяць распухлыя, што сасіскі, пальцы пасудамыйкі, раніцай прачынаюся яшчэ з думкаю пра тое, што трэба ж бегчы ў свой пасудамыечны адсек... Здаецца, гэты месяц працы сярод людзей, у руху варты для сталення душы болей за паўгода ў бібліятэцы. Як новы свет нарадзіўся ўва мне! Крыўдзілася, радавалася, ныла, смяялася. Жыла адным жыццём са сваёй брыгадай. Не пісалася. Прыходзіла да людзей разносчыцай цукерак, кефіру, баршчоў, шашлыкоў. І заставалася сабой, усмешлівай дзяўчынаю, але была пасудамыйкай... Узнагародай – цікавая выпадковая размова або сачысты персік ад такога нібы зацятага нашага вартаўніка. За сумленнасць?.. Цяпер чытаць! І кліча Прыбалтыка. Будзе Рыга?!

Прымаю за аксіёму: важна не месца, намі займаемае, а накірунак, у якім рухаемся.

22 жніўня

Цудоўная Рыга – казка, сон. Ужо дзеля трох гадзін блукання па старадаўніх вулічках варта было сюды імкнуцца. Сярод цесна ссунутых дамоў аж кружыцца галава, замірае дыханне, калі ўглядаешся на смелых пеўнікаў у высокім блакіце... На бруку рыцар у цяжкіх даспехах. Зусім іншая, чым у Мінску, архітэктура. Адно ўзгадваецца Чырвоны касцёл Сымона і Алены пры Доме ўраду... Рыжскі замак, а побач Касцёл тужлівай Божай Маці – на ўваходзе свечкі,

шматлюдна, арган, святар са святой вадою. І – музеі, музеі...

24 жніўня

Узмор’е. Рыжскі заліў. Вада выразна дыхае. Ласкавая, настойлівая хваля паліруе пясчаны бераг, які вабіць далей і далей, вядзе ўздоўж выцягнутых у неба сосен, падцягнутых акуратных домікаў...

Учарашні вечар з арганнай месай Баха – трымклівай птушкай у грудзях. У запоўненай густымі гукамі велічнай прасторы Домскага сабора ўздымаешся, падаеш, плывеш. Аказваешся дзесь на мяжы сваіх магчымасцей. Няўжо гэта толькі музыка?!

26 жніўня

Саласпілс. На месцы баракаў цвітуць ружы. Сем тысяч дзяцей адсюль у сваю вечнасць пайшлі. Ім і цяпер прыносяць цукеркі.. У нейкіх дваццаці кіламетрах ад Рыгі – лагер смерці. Колькі тут сярод знішчаных ста тысяч вязняў і беларусаў было... Сюды рвалася, каб пакланіцца болю, пакуце, але ж з пачуццём сваёй віны без віны не мела сіл, каб затрымацца даўжэй...

Хочацца ўжо дахаты і адначасова шкада развітвацца з незвычайнай Рыгай.

Душа перапоўнена летнімі ўражаннямі. Шлях у журналістыку – толькі праз самаўзрошчванне, працу і працу.

3 верасня

На новай кватэры, Магілёўская. У адным пакоі з бабуляй Верай, якая толькі спаць прыходзіць на свой ложак. На стале, на вакне мае кнігі. Да філфака паўгадзіны – праз вакзал, паўз стадыён

Дынама вуліцай Энгельса. Стала выразна болей заўважаць, чым нават месяц таму, як, напрыклад, дробныя ўпрыгожванні на будынках. Час на вучобу. Не хапае ведаў! Хаджу як галодная. Бялінскі, Паўстоўскі, deutsch . Чытаць, чытаць!

5 верасня

Зноў невытлумачальны ўнутраны боль. У нечалавечым напружанні нібы на кавалачкі расцягваюцца, расцінаюцца грудзі. Комплекс непаўнацэннасці ці яшчэ як вызначыць гэтую пакуту... Няёмкасць, разгубленасць. Спадзявалася, што няўпэўненасць прамінула, што разам з новай вопраткай прыйшлі плаўнасць, лёгкасць. Ды не! Зноў падаю, цягне ў нейкую глыбокую яміну. Толькі цяпер яшчэ мацней. Безвыходнасць, пагарда знутры да самой сябе. Цемра засмоктвае. Зрэдку выблісне сонечны прамень, падасца, што выратаваная, ура! Ды падман. Пасля святла яшчэ гусцей цемрадзь. Няўжо гэта на ўсё жыццё – бясконцае змаганне з сабой...

8 верасня

Так, мушу вучыцца, думаць, даводзіць да ладу сістэму пачуццяў і парываў.. Ад уласнай бездапаможнасці робіцца страшна. Страх жа ў сваю чаргу паралізуе магчымасці. Болей адчуваю, гавару, чым раблю.

Сніцца начамі Рыга. Дзівосныя мясціны, падараваныя мне летам. Горы Каўказа ў імглістай дымцы. Грывастае мора няўрымслівай пяшчотай лашчыць цела. З залатога сонца – абрыкосы і духмяныя персікі...

14 верасня

Аднесла матэрыял у “Знамя юности”. С. Вага-

наву спадабаўся!

Якое цудоўнае жыццё! Вера ў самую сапраўдную прышласць. Здорава адчуваць сваю маладосць, сілу. Любіць. Задыхацца ад неабсяжнасці свету. Гарэць прагаю ведаў. Хочацца зацалаваць усю планету па імені Зямля. Вымыць яе. І рвецца з грудзей: Вітаю цябе, Сусвет! У гэты вечар незвычайнае сваяцтва з праміінулым і цяперашнім. Няма маіх болек, тугі. Ёсць глыбокая радасць. Адзінай плынню ўсе ручайкі ў душы. Шчасце? Гэта болей, чым шчасце. Гэтаму няма вызначэння.

15 верасня

У Рускім драматычным тэатры – “Двое на арэлях” Гібсана. У жыцці я перастала плакаць, затое румзаю ў кіно, тэатры...

Трэба, каб жыць азначала – рабіць дабро людзям. Толькі гэтым можа быць апраўдана радасць існавання пад сінім васільковым небам. Калі дорыш, набываеш сам непараўнальна болей, чым атрымлівае другі. Калі б кожнаму хацелася несці паўсюль радасць, якім бы шчаслівым было ўсіхняе жыццё. Людзі, дарагія, будзьце ўзаемна дабрэйшымі...

Прынеслі тэлеграму ад Наталлі Пятроўны – заўтра прыязджае. Ура!

19 верасня

Адчуваю сябе бездапаможнай дзяўчынкай. Хочацца, каб хтосьці добры і моцны ўзяў на рукі, прытуліў да грудзей і адтаяла б мая заледзянелая няўпэўненасць ў сабе, нерашучасць, сарамлівасць, ад якіх няскладнымі робяцца рухі, ненатуральнаю ўсмешка, камянее думка. Ды, на жаль, той добры і моцны збіўся са шляху. Ходзіць дзесьці па крузе і не дайсці яму да мяне, не сагрэць. Спраўляйся

сама, дзяўчынка. Нясі ярмо добраахвотнай самоты. Я – чужая людзям, застаюся чужой, так прагнучы дабра ўсім. Пачуццё, быццам ведаю штосьці вельмі важнае для ўсіх і не магу выказаць словамі, назваць... Працаваць. Працягваць вопыты над сабою...




Графіка Ежы Лянгевіча

# З ЗАПІСАЎ АСПІРАНТКІ

11 мая, **1979**

Нарэшце выбралася ў Акадэмічную бібліятэку. Пасля двухгадовага перапынку разгубілася, знiякавела перад кніжнымі паліцамі ў філалагічнай зале на пятым паверсе. І дыхнула студэнствам, здалося, што вось-вось увойдзе ажыўленая, прыгожая Данка... Колькі ж мне трэба асвоіць, каб патрапіць у аспірантуру акадэмічнага Інстытута літаратуры! Рука адразу пацягнулася да “Здалёк і зблізку. Беларуская проза на літаратурнай планеце” Алеся Адамовіча. Зачыталася, у захапленні! Вось бы мне каго ў навуковыя кіраўнікі...

Імгненне – адчуваю сябе дужай, здольнай падараваць радасць усім вачам, усмешку ўсім вуснам. І цяжка стрымацца, каб не крыкнуць штомоцы: Я люблю вас, людзі! Хочацца абняць усіх наўкола. Шчырымі пачуццямі перамагчы крыўдлівую адчужанасць, якая адбірае радасць. У кожным чалавеку прыхавана светлае, добрае, што належыць усім. Натхненне жыць!

23 мая

Ужо сярэдзіна тыдня. Губляюся ў маральных даўгах. Лісты, тэлефонныя размовы і раздражненне, што не вучуся. Забегалася. Характарыстыка з

выдавецтва хіба ў парадку. Рэферат?!!

Мітусня глынае "высокія парывы". Пісаць хочацца і мучаюся нявыказаным, а сіл і яшчэ нечага – ну прызнайся, галоўнага ж, бо здольнасцей! – не хапае. У электрычцы з Асіповіч – сімпатычная жанчына, добра за трыццатнік, з дачкой, як аказалася, васьмігадовай. Насця ўсцешана: у ліловай гронцы бэзу пяціпялёсткавае "шчасце" знайшла. І калі праглынуць яго з думкай аб нечым, дык абавязкова задуманае здзейсніцца. Пытаюся асцярожна: "А ёсць у цябе жаданне запаветнае?" Зажмурылася: "Вучыцца на <пяцёркі>, – а пасля ціха і вельмі сур'ёзна працягнула: "Каб усе родныя, што памерлі, жывымі былі..." Мама ўключылася ў размову: "Вельмі часта на могілкі ез-дзім..." Белы вялізны бант, касу сама не ўмее заплятаць. Мама ж дачушку выкупае, валасы распусціць, а яны хвалямі кудравымі плечы закры-ваюць. Ды Насця ж стрыжку хоча! Ой так, прыйдзе час, калі "Дачка сама адрэжа косы..." Мудры верш Веры Вярбы не мог не прыгадацца. Насупраць жа сядзелі ажыўленыя, шчаслівыя маладыя муж і жонка... Мама Насці тужліва-тужліва маўчала. Яе бацькі даўнавата памерлі, і, відаць, з татам дачкі не склалася...

28 мая

Увесь дзень гнала другую карэктуру, каб а шаснаццатай выйсці з выдавецтва, але ж амаль паўтары нормы не хочуць экспрэсова рабіцца. Пісаць! Вучыць! Каб жа не карэктарская!.. Лісты напісала. І ў цюрынгскі Rudolstadt, па якім так ужо засумавалася. Што робіш зараз, mein liebes Schwesterchen, мая Беціна, мілая, слаўная мама амаль пяцімесячнай цудоўнай Лілянкі...

Парашуты ў высокім ранішнім небе: каменьчык выслізгвае з самалёта, імкліва выцягваецца, як

страляе, і вось гойдаецца чарговы каляровы парасон над Зялёным Лугам з яго цудам ацалелымі сярод шматпавярховікаў яблынямі і вішнямі...

31 мая

Патрапіла на незвычайны фільм – "Андрэй Рублёў" Андрэя Таркоўскага , зняты яшчэ ў 1971 годзе! Праўда, відаць, тады я яго і не змагла б ацаніць. І зараз не хапае ведаў. Сорам мне, як няшмат падказвае памяць. Так, найперш класічная таемная "Троіца" з падручніка гісторыі. Ды канкрэтна ўзбагацілася, бо фільм апелюе да чагосьці невыказна важнага ў душы. Перад вачыма стаіць сапраўды светлы воблік Ісуса Хрыста. Барацьба дабра і зла. Катарсіс.

Учора познім вечарам хлапечы голас зваў: "Мама! Мама! Мама!" Далей і далей у цемру, раз'ясненую святлом ліхтароў і рэдкім святлом з вокнаў, за якімі некаму ж не спалася яшчэ. "Мама, мама..." Просьба, адчай, трывога, мальба. Скалануў той голас душу. "Мама!" І рэха яго не перастае гучаць, трызніць ува мне.

Суша. Нейкая абыякавая жорсткасць у бясконцых сонечных днях. Прадчуванне бяды. Ціша. Замоўкла, затаілася жывое. Паліваю бярозкі ў двары. Ім асабліва цяжка, бо не ўкараніліся яшчэ, толькі гэтай вясной пасаджаны былі...

4 чэрвеня

Скрыпіць паслухмяны добра знаёмым рукам журавель, уздымае ўгору сваю драўляную дзюбу і жывая душа студні плюскоча, гучна пераліваецца з вядра ў палівачку. Напачатку засмяглая, спапеленая зямля маршчыніцца аблепленымі пылам вільготнымі зігзагамі, барадаўкамі-кроплямі. Але ж паступова як ачуньвае, прагна ўбірае ваду і зноў

стаецца глебай-маці... Зялёная лістота, парас-ткі на вачах выпростваюцца пад рукатворным дож-джыкам. Святочна-радасна трымае на сабе кро-пелькі вады лісце агуркоў, памідораў, буракоў... Невыказнае шчасце – ратаваць жывое!

Пцічанскі бераг з маімі вечнымі дубамі. Тры-маецца і той, магутнае цела якога прыцягнула некалі маланку. Выгарэла амаль усё нутро з кольцамі-гадамі і разгалістая вершаліна трыма-ецца, здаецца, адно шурпатай карою. Тут яшчэ нядаўна хлапчукі надумаліся касцёр у дуплянцы раскласці і высмалілі вялікую круглую дзірку, што ілюмінатар, а дуб нейкім цудам надалей жыве, зелянее. Ды як баліць яму, знявечанаму, і даўнім і цяперашнім болем, дзіўна, што слёзы не заліваюць нас, жорсткіх...

7 чэрвеня

Размова з Іванам Якаўлевічам Навуменкам суцешыла. Параіў, каб пісала рэферат аб "чыстым" Іва Андрычу. Палёгка, але ж адчуваю няўпэўне-насць, нават разгубленасць, бо ці маю падставы, каб прэтэндаваць на аспірантуру, на працу літаратуразнаўцы, крытыка?.. Бацькі дзіву даюцца, што ёсць нейкія аспірантуры, за навучанне ў якіх нават грошы даюць, і не абы якія – сто рублёў...

Востры пах фарбы. "Памалявана, не садзіцца!" А ён сабе сядае на ярка зялёныя ліпкія лаўкі – белы тапаліны пух.

11 ліпеня

Дні ляцяць. Так ціха, непрыкметна, што страш-на робіцца. Гэтак усё жыццё цішком прамільгнуць можа. І не заўважу, і не ўспомню, чым жыла. Трэба спяшацца, не марнаваць час. А як?! "Граматыку" пад палец чытаю. Стамілася. Уступ да рэферата

перадрукаваны. За маму хвалююся. І пры тым, якая ўнутраная бадзёрасць ахоплівае, калі адзываецца ў душы задума – напісаць, расказаць, паказаць... Толькі ж гэта хвіліны, найболей гадзіна, а потым зноў нібы пад прымусам жывеш, каб дачакацца азарэння. Не хапае Бедіны, Данкі.

12 верасня

Нарэшце на фінішнай прамой – у экзаменацыйным адпачынку. Другі раз убачыла подпіс Навуменкі. Упершыню – як пісьменніка на ягонай кнізе з "Піянера Беларусі", атрыманай за перамогу ў чарговым конкурсе, а цяпер – як дырэктара Інстытута літаратуры на лісце, які падставаю для гэтага адпачынку. Уперадзе тры экзамены: беларуская літаратура, гісторыя і deutsch.

Зноў адчуванне, што нешта расце, збіраецца ў душы. Нібы разгортваюцца, рвуцца навонкі крылы. Няўжо не ўзлячу? Няўжо не напішу? Простае, яснае і сутнасна патрэбнае людзям?!! Так знаёмы гэты душэўны парыў. І ўсё жыццё зараз здаецца адным радасным святым імгненнем, якое маланкава акідаеш вокам. І адчуваеш сябе сабою з тых гадоў, калі малечаю бегалася сярод антонавак па яблыневым садзе, калі збіралася залацістае, багровае кляновае лісце, трымцелася, цягнучыся ўгору за высачэзнымі соснамі над мамінымі чарнічнікамі, і штодня знаходзілася нагода, каб здзівіцца, парадавацца нечаму. Тады была ўжо разумнай, відаць, разумней, чым потым, калі пачала шукаць, чаго ж мне трэба ад свету, ад людзей. І нішчыла душу, вымучвала, але ж тое дзіцё аказалася разумнейшым і мацнейшым. І сёння вядзе па жыцці. Як хочацца верыць яму...

10 лістапада

У аўторак прыйшоў афіцыйны ліст з Інстытута літаратуры. Узрадавалася, хоць, здаецца, радавацца няма чаму. Залічылі ў завочную аспірантуру. Радасцю тое, што кіраўніком прызначаны Аляксандр Міхайлавіч Адамовіч! І якую раскошу я сабе сёння дазволіла за маміны грошы! Купіла "Знакови поред пута" Іва Андрыча – кніга на ўсё жыццё.

29 лістапада

Душа сумуе па прыгажосці, гармоніі. Хоць бы на сваім маленькім жыццёвым адмежку іх прапісаць... З наступнага тыдня пачынаюцца заняткі па філасофіі і deutsch. Ці здолею, аддаючы па восем гадзін карэктарскай, падрыхтавацца да кандыдацкіх экзаменаў? Падмогаю адзін на ты-дзень аспіранцкі вольны дзень. Між тым паштовая скрынка пустая колькі ўжо часу! Дні страшэнна падобныя адзін на другі. У тэатры не была сто гадоў, у кіно таксама.

6 снежня

Пазаўчора – чатыры лісты: Беціна, Гоца, Наташа, Валя. Як адразу ўзбадзёрылася... І сёння нарэшце – ад Данкі. Выйшла з ліфту і, не заходзячы ў кватэру, праглынула-прачытала. Не хапае мне дзяўчат маіх! Дадзена жыць побач з увогуле добрымі людзьмі, а адчуваю няёмкасць, што не з імі пры іх, аддаленая душэўна. Адсутнасць у прысутнасці. Гэты год чарговым выпрабаваннем мне: нудная, сумная праца і надалей fremde Menschen. Кожны дзень заняткі. Застаецца трымацца надзеяй, што два здадзеныя кандыдацкія адкрыюць мне дарогу на стацыянар...

14 снежня

Ніна Мацяш. Шчасце, што чалавек гэты ёсць! Адчула сябе "жывою". Яна, да слёз кволая фізічна, такая моцная духам! У камінnай зале Дома літаратара – вечарына-сустрэча з аўтаркай "Агню", гэтага майго талісмана, набытага на ганарар з раёнкі ў цеснай дарагаnаўскай кнігарні на адным з перапынкаў між урокамі... Як даўно мне марылася з Нінай пазнаёміцца, а Ларысе, аказваецца, пашанцавала са школьных гадоў з ёй пасябраваць. Былі на вечарыне Данута Бічэль-Загнетава – вельмі абаяльная, відаць, як мужчынам падабаецца і – Алесь Адамовіч. Амаль закаханая ў яго! Паразмаўлялі. Цудоўны снежаньскі вечар. Цудоўны год, які шчодра на завяршэнне сваё падараваў мне сустрэчы з Людзьмі. Нават не хапае мяне, каб адразу спаўна прасякнуцца дабрынёю гэтага часу. Хіба пакрысе эмоцыі размяркуюцца па ўсёй душы. І яшчэ адна кранальная сустрэча – Станіслаў Пятровіч. Як пастарэў, на жаль, за гэтыя гады...Вельмі шкада, што неяк перапыніліся нашы сумоўі.

Учора да ночы падпісвала паштоўкі ў замежжа: Югаславія, ГДР. Кепска, што спехам. Трымаюцца адносіны з маімі турыстамі. Няўжо былі гэтыя мае выезды ў самы Чоп на мяжу, каб сустрэць групу і далей суправаджаць у Кіеў, Маскву, Ленінград. Падарожнічаць і зрасціся з некаторымі так, што і праз гады яны запрашаюць да сябе... Часопісы заказала. З deutsch да заняткаў шмат трэба пераkласці.

8 студзеня, **1980**

Ніна ў Бараўлянах, у бальніцы. Наведалі з Ларысай яе. Адчуванне, што Ніне можна сказаць пра ўсё-ўсенькае і хочацца бясконца слухаць яе, здзіўляючыся як абнаўляецца, здавалася б, добра знаё-

мае ў яе вуснах. Так што я цяпер проста ўлюбёная ў дваіх – Ніну і Алеся Міхайлавіча. Забягала ў Інстытут. Не адчуваю халоднай дыс-танцыі. Не хвалююся тым, што пра мяне падумаюць. Сорамна толькі аказацца зусім бяздарнай, хоць і гэта генеральна нястрашна. Варта было прайсці праз выпрабаванне ўступнымі экзаме-намі, каб вось так мець права на размову з Алесем Адамовічам. Удалы дзень: яшчэ і дваццаць пяць тысяч з deutsch здала і нават аўтобусы нібы да мяне дапасоўваліся, ні разу не давялося чакаць на марозе. І яшчэ адна радасць: першая набытая кніга ў новым годзе – “Выбранае” Канстаціна Паўс-тоўскага, асабліва дарагое мне яго “Залатой ружай”.

24 студзеня

Зачыняйце за сабой дзверы ў мароз, каб тым, хто на першым паверсе жыве, таксама цёпла было. І як часта мы тыя дзверы наросхрыст пакідаем. І на першым паверсе і ў чалавечай душы скразнякі робім, уварваўшыся ў яе знянацку...

Была на пасяджэнні Навуковага савета Інстытута. Зацвердзілі тэму дысертацыі: “Беларуская і югаслаўская ваенная проза: маральна-этычны свет героя”. Сядзелі перада мной “зубры” інстытуцкія (Ю.С. Пшыркоў, В.В. Барысенка, П.К. Дзюбайла) і перагаворваліся, што немагчыма такую шырокую тэматыку ў кандыдацкай, калі яшчэ вопыту зусім няма, асягнуць. Маюць рацыю?! Давяраю Алесю Міхайлавічу. Цікава было паслухаць Алеся Разанава, аказваецца, аспіранта-завочніка А. М.Адамовіча чацьвёртага года ўжо. Значыць, я на ягонае, можна сказаць, амаль вакантнае ўжо месца ў аспіранткі Адамовіча залічана. І сядзелі яны побач.

6 лютага

Сёння Лілянцы Бецінінай – годзік. Са святам мацярынскім, mein liebes Schwesterchen !..

16 лютага

Прачытала аповесць Алеся Адамовіча “Карнікі”. Вусцішна. Ты, апынуўшыся ў той судны, трагічны дзень 15 чэрвеня 1942 года ў вялікай вёсцы Боркі паблізу ад Кіраўска, што недалёка ад Бабруйска і маіх Асіповіч, не можаш вырвацца з яе. Не па сабе, нават страшнавата вяртацца было ўвечары дадому з бібліятэкі, а як нагоніць які карнік і стрэліць у спіну... Сам-насам чытачу цяжка з тым жудасным светам, а як жа пісьменнік? Якое неймавернае намаганне над сабой трэба было зрабіць, каб узнавіць тую вялікую трагедыю, аддаць належнае ахвярам і выкрыць злачынцаў... Хоць гэта лагічны працяг працы над кнігай “Я з вогненнай вёскі...”. Ён жа, Алесь Адамовіч, быў ініцыятарам пакутлівых вандровак па Беларусі, каб ім утрох – яшчэ Янку Брылю і Уладзіміру Калесніку – запісаць сведчанні тых, хто гарэў, а цудам ацалеў. А гарэлі звыш дзевяці тысяч беларускіх вёсак!.. З якой бездані болю зачарпнуў Алесь Міхайлавіч!

17 лютага

Чарговы мой дзень... Душа патрабуе, моліць любімай справы, бунтуецца, адмаўляецца працаваць па прымусу. Ды мушу прымусіць, “угаварыць”, бо ад гэтага цяпер уся мая прышласць залежыць. Пісаць бы! І хочацца Брыля чытаць...

Не саромецца рабіць добрыя справы! Сёння бабулька ў аўтобусе ў дзяўчыны побач са мной блытана пыталася, ці даедзе да праспекта і хіба, не зразумеўшы, выйшла раней часу. Хацелася кінуцца

за ёй, пасадзіць і растлумачыць усё, а засаромелася – шмат сведкаў. Потым так брыдка стала на душы.

21 лютага

Вучоны сакратар сказаў, што вельмі цяжка з пераводам на стацыянар, маўляў, не спадзявайцеся. Я ж звыклася з тым, што на мне цукеркі ў чарзе заканчваюцца, ці касірку да тэлефона клічуць, калі я амаль спазняюся некуды. Ужо шмат менш крыўдую. Тады і радасць, і няўдача здаравей успрымаюцца, не выкідаюць з сядла.

Лісты. Так чакаю іх, а сама недаравальна маўчу.

12 сакавіка

Учора заходзілі з "каралевай ангельскай" Тайкай да васьмідзесяціпяцігадовай Вольгі Андрэеўны. Цікава – верыць адначасова ў Бога і ў камунізм. Пра крынічную ваду і бярозавы сок гаворыць, што яны гаючыя, бо з зямлі бяруць тое, чаго мы, людзі, узяць не можам. Расклала карты, варажыла, мяне аж "прымарозіла". Урэзаліся ў памяць таксама яе словы, што жыццё такое доўгае, а хацелася б ёй "хоць вокам адным на камунізм паглядзець..."

У абедзенны перапынак стаяла ў чарзе за маслам і мне апошні кавалак перапаў, а за мной людзі на мяне раўніва-непрыязна спаглядалі. І я ж незадоўга хвалявалася, каб мне хоць хапіла. Ды як прыкра стала сябе самой, як нізка падаю! І надакучылі дэфіцыты. Гэтым разам, праўда, у чарзе гаварылі, што беларускае масла ў Польшчу адпраўляюць. Бо там праблемы. Але ж крыўда на тых людзей, што высока сядзяць і не могуць загаспадарыць адпаведна. Гэтак і наш грамадскі лад можа рассыпацца з-за неахайнасці кіраўнікоў...

28 сакавіка

Данцы – сёння дваццаць пяць! Там, за дзвюма, хоць і брацкімі, а межамі, ты, можа, успамінаеш аб сваіх святочных днях ў роднай Гаслаўшчыне, у Мінску на Кастрычніцкай і вось зноў дома, у той далечы далёкай... Як жа мне цябе не хапае! А калі хоць аднаму чалавеку ты патрэбны – ужо гэта значным апраўданнем жыццю нашаму...

16 красавіка

Лісты ад Беціны, Данкі. І сама напісала Наташы, Наталлі Пятроўне. Музыка: Моцарт, Грыг. Дзень пачаўся з вершаў Райнера Марыя Рыльке:

O Leben Leben, wunderliche Zeit
von Widerspruch zu Widerspruche reichend
im Gange oft so schlecht so schwer so schleichend
und dann auf einmal, mit unsäglich weit
entspannten Flügeln, einem Engel gleichend:
O unerklärlichste, o Lebenszeit...

Закончыліся семінарскія заняткі па філасофіі. Па рэферату “выдатна”. Дрыжу перад экзаменам. Абарвала ўчора правады тэлефонныя: шукала Адамовіча. Іншы свет. Маю ж “Лелейскую гару” чарнагорца Міхайла Лаліча ў Алеся Міхайлавіча пазычыў пачытаць Васіль Быкаў. Бяруся за чарговы раман Лаліча. І deutsch наперадзе.

23 красавіка

Зайшла да Веры Міхайлаўны ў бібліятэку. Якою лёсаноснаю была сустрэча з ёю на другім курсе! Натрапіла ў “Дружбе” на “Ex ponto” і “Немири” – першыя кнігі Іва Андрыча.

І ўжо хранічным болем – адносіны да беларускай мовы. Люблю *могучий русский язык*, які

абставінамі таксама як родны. Але ж я – беларуска! Не бачу розніцы паміж сваімі замежнымі сябрамі і сабою. Але ж я – беларуска! Мая бяроза, мая рака, мая лясная сцежка – у сэрцы Беларусі. Разам з адмаўленнем ад нацыянальнага мы губляем, магчыма, душу сваю. Прынамсі, яе крыўдзім, істотна абяссільваем. Асіміляцыя – цалкам стратная з’ява. Як можна дазволіць, каб народ на сваёй крэўнай зямлі асіміліраваўся, уніфікаваўся? Спрачалася ўчора амаль да слёз у карэктарскай з Зінаідамі – Міхайлаўнай і Якаўлеўнай. Як асабістая крыўда...

7 мая

Хуткая дапамога – не ля майго пад’езда. Спачуванне некаму, але ж і пачуццё палёгкі: бяда абмінула цябе, тваіх блізкіх.. У кожным жыве затоеная эгаістычная радасць? Спачуваць шчыра, да самага донца, каб боль іншага стаўся сваім болем, здольны нямногія. Ды і ўвогуле, ці магчымая такая чалавечая высакароднасць? Відаць, іначай спачуваюць тыя, хто яшчэ не меў вопыту цярпення і тыя, хто зведаў пакуту... І непазбежна пераключаюся на сваю ваенную тэму. Як, знаходзячыся далёка ад падзей, зразумець, ацаніць тое, як яны данесены, выяўлены ў мастацкім творы? Непрабачальна аказацца бездапаможнай, недастатковай у інтэрпрэтацыі твораў саміх непасрэдных удзельнікаў вайны. Зманіць, хаця б і ад чыстага сэрца. У каторы раз узнікае недавер да свайго “я”. І, відаць, шлях да ісціны адзін – самае сур’ёзнае, адказнае стаўленне да працы. І не пазбыцца віны без віны перад імі, байцамі, маладзенькімі лейтэнантамі, партызанамі, якія жыццём сваім ахвяравалі, каб нацысцкі план Барбароса не знішчыў славянства, не падпарадкаваў сабе Еўропу...

30 мая

Па філасофіі – “выдатна”! У першы момант адчуванне невыказнай лёгкасці, а потым – звыклая незадаволенасць сабой. Георгій Іванавіч, відаць, зараней, на семінарскіх ужо, “выставіў” нам адзнакі. Усё ж працавала я паўгода сумленна і насуперак стомленасці. Значыць, адзін кандыдацкі за спіной. Не расслабляцца – праз тыдзень deutsch.

Проста так – для душы, забягала ў Інстытут. І на самым уваходзе ўбачыла знаёмы твар. Прыгадалася, што мільгануўся ў сектары, як прыходзіла ўпершыню абмяркоўваць тэму да Алеся Міхайлавіча. Імгненна вырашыла, што жанчына мяне не помніць, а яна, у яркім чырвоным бярэціку, звярнулася да мяне і назвала нават па імені. І падакарала, што лепш аказацца “перавыхаваным”, чым наадварот. Мне так сорамна зрабілася! Што дасюль ніякаватасць не сыходзіць. Вось так, вучаніца-аспірантка!

18 чэрвеня

Ну што, заяц, даскакаўся?!! Здаецца, вялікім глупствам была мая згода на завочную аспірантуру. Трэба было ў дзённую паступаць і паступаць. Здзіўляюцца, як два кандыдацкіх за паўгода змагла здаць, а абяцанае не хочуць выконваць. Са спецыяльнасцю спяшацца не буду, а іх жа да таго дзве – беларуская і югаслаўская літаратуры.

У мяне зараз ёсць час і сілы, каб адчуць як хочацца займацца і няма часу і сіл, каб гэта здзейсніць... Усё праз сябе, праз насілле над душой сваёй кволай – карэктарскай, кухняй, побытавай мітуснёй, жыццём, дробязным і бяссэнсавым.

24 жніўня

Была верасовая дарога ў Белаазёрск з Ларысай.

Усе словы аказваюцца слабымі і недастатковымі, каб выказаць мой стан, настрой пасля дзён у Белаазёрску. Ніна! Родны, блізкі чалавек. Адкуль гэта?!! Яе сіла, сіла бездапаможнай фізічна. Я, каюся, у чарговы раз пабойвалася, што не здолею, здаровая і нікчэмная, стрымаць жаласліваць. Ды, на шчасце, ёсць толькі спачуванне. І адчуванне яе вялікай, нават уладнай дабрыні, самадастатковасці. Утульная кватэра ў цэнтры Белаазёрску, а за пару кіламетраў – родная вёска Ніва, дзе жывуць такія слаўныя сардэчныя бацькі і сёстры Ганна з Марыяй. Мама Ніны такіх смачных яблык нам з Ларысай на дарогу назбірала. Стаіць у вушах Нініна “Калыханка маме”...

30 жніўня

Беціне сёння споўнілася 26 гадоў! Ні слова яшчэ ад яе з Балгарыі. Хадзіла ў грыбы. Асалода і заўсёднае, а новае здзіўленне цішынёй і лясным, непараўнальным ні з чым, водарам позняга лета. У адпачынку. Хочацца перакладаць Андрыча. Уплыў Ніны? Увогуле ж вяду расліннае жыццё. Каб была пэўнасць, што сяду за кнігі, а не за карэктуры, з радасцю аддавалася б гэтай будзённасці. І яна ж патрэбная, бо часам проста лечыць. Зараз жа, здаецца, калечыць. Бо не чытаецца, не думаецца аб патрэбным, а час ляціць. Я ж усё на адным узроўні, калі не ніжэй...

15 кастрычніка

Амаль рэзкая размова ў кабінеце І. Я. Навуменкі ў Інстытуце. Ён бачыць мяне супрацоўнікам сектара тэксталогіі. І на маё ледзь стрымліваемае, каб не расплакацца, але ж адчаянае, што дык можа аспірантуру трэба кінуць, пачула з дырэктарскага крэсла абыякавае: “Кідайце!”.

22 кастрычніка

Увесь прамінулы тыдзень у песімізме з праблёскамі надзеі. У Алеся Міхайлавіча дома. Над пісьмовым сталом у кабінеце новыя партрэты з'явіліся. Відаць, бацькоў, а паміж імі – маленькая, зараз дарослая дачушка. Удзячная яму за ўважлівасць, бо як жа баліць усёй мне гэты апошні візіт у Інстытут. Сказаў Алесь Міхайлавіч, што Навуменка ўвогуле адходлівы і можа якраз добра, што так сталася, бо ў яго пачуццё віны нейкае прабілася, якое ў размове з ім Алесь Міхайлавіч адчуў. Буду чакаць, як і вучоны сакратар раіць, да 15 снежня. Нібы на чамаданах сяджу.

Галоўнае ж – мой унутраны свет, мір паміж памкненнямі і магчымасцямі. Залежная ад абставін, людзей, я не ў стане змусіць іх быць дабрэй да мяне. І здаўна трымае на паверхні перакананне, што жыццё апраўдана толькі тады, калі з дня ў дзень над сабой працуеш, імкнешся зразумець, што ж у гэтым неасягальным чалавечым свеце адпавядае менавіта табе, да тваёй душы прамаўляе і раскрывае найперш твае магчымасці. Слабачка я. Не маю сіл якраз за істотнейшае змагацца – за ўнутраную раўнавагу. Нават, на першы погляд, невырашальныя супярэчнасці прызваны не разбураць нас, а загартоўваць, умудраць. Толькі тады яны маюць сэнс. Вось, боль з душы выцясняю гэтымі цяжкавагавымі роздумамі. Разважаю добра, але адкуль узяць сілы, каб устаяць без відавочнай падтрымкі... І пайду з абедам да Ларысы. Гэта важней сёння за ўсе бібліятэкі – яе хворую падтрымаць.

27 кастрычніка

Асірацелая котка. Хата на замку. Зарасце назусім сцежка ці новы гаспадар адчыніць дзверы? А

котку падкармліваюць суседзі, праз вуліцу.  Жыве ж яна недзе на гарышчы, дома...

Дзервянею ў карэктарскай. Адно і тое ж. І раптам подых надзеі, што манатонія гэта неяк пацiснецца. Запісалася на выезд па Залатому кальцу Расіі. Праўда, малому, бо толькі Уладзімір, Суздаль і Багалюбава маем наведаць. Колькі за два дні можна паспець? Гэта ж ноч да Масквы і назад ноч у цягніку. Але душа заныла па дарозе пад перастук колаў – ах, мае студэнцкія ваяжы працоўныя... Толькі б удалося! Перадрукавала ўчора нарэшце хірамантыю,  для Валі галоўным чынам. Як хочацца верыць добрым знакам на сваёй далоні і забыцца аб дрэнных! Псіхалогіі мне не хапае. І жаданне пісаць – нібы пах кветак палявых...

29 кастрычніка

Вучоны савет у Інстытуце літаратуры. Алесь Міхайлавіч заняты Алесем Разанавым, які выпускаецца і, на жаль, не выступаў, а хацелася яго паслухаць. Валі да дня нараджэння паслала  кнігі А. Адамовіча і К. Чорнага. Сабе купіла другі том Брыля. Ура! Настольнай кнігай сталі брылёўскія тамы. Таксама Андрычавы “Знакови поред пута” ўвесь час пад рукой.

22  лістапада

Вось і дачакалася: падарожнічаю. Ноч у цягніку да Масквы нечакана ў бясконцых размовах з вельмі мілай Вікай, нашым групаводам. З Беларускага вакзала пераехалі на Курскі і селі ў электрычку на старажытны Уладзімір. З 1157 года да сярэдзіны XIV стагоддзя ён быў сталіцай Уладзіміра-Суздальскага княства, а заснаваны Уладзімірам Манамахам яшчэ ў 1108 годзе. Вось якая неверагодная даўніна! Ва Успенскім саборы,

пабудаваным у 1158 – 60 гадах, захаваліся фрэскі самога Андрэя Рублёва, выкананыя майстрам у 1408 годзе, магчыма, з Даніілам Чорным. Як удзячна актуалізаваўся фільм Таркоўскага... Агледзелі яшчэ Дзмітрыеўскі сабор, пабудаваны ў 1194 – 97 гадах, Залатыя вароты, якія адначасова з Успенскім саборам узводзіліся. Якое шчасце, што ўсё гэта захавалася, не вынішчана, як у Мінску нашым... Па дарозе ж у Багалюбава палюбаваліся на рукатворны цуд – белакаменную царкву Пакравоў на Нерлі. Вось дзе гармонія і святлынь!.. У Багалюбаве высокія, аднолькава аголеныя і нейкія сірыя ліпы і таполі абступілі колішнюю рэзідэнцыю вялікага князя ўладзімірскага Андрэя Багалюбскага, які так шмат рабіў дзеля вызвалення Русі ад татараў і забіты быў сваімі ж!

23 лістапада

Адно з найсвятых месцаў на зямлі – Суздаль. Паўсюль навокал – цэрквы, манастыры. Як лёгка, лёгка дыхаецца тут. У XII стагоддзі гэты цяпер гарадочак – сталіца Растова-Суздальскага княства, а ў XIII – пачатку XIV – Суздальскага. Былі ў саборы Раства Багародзіцы, пабудаваным у 1222 – 25 гадах, у Спаса-Ефімаўскім, Пакроўскім манастырах. Прыпынак на ноч – у нават празмерна ажыўленым кемпінгу. Колькі агульных тэм у нас з Вікай! Аказваецца, яна таксама філфак закончыла і цікавіцца балгарскай мовай. Шкада, што так коратка, мала часу мы тут, дзе само паветра нібы прасякнута незвычайнай гісторыяй амаль пачаткаў хрысціянскага жыцця на Русі, на жаль, гісторыі ад мяне да апошняга часу ўвогуле як заслоненай...

26 лістапада

Бах з раніцы і ўвечары. У сне лятала! Раўна-

вага, святло, вышыня. Ларыса пазычыла Евангелле. Так, даўным-даўно трымала ў руках Новы Запавет і чытала, але тады, пры вялікім, помніцца, піетэце да фаліянту на царкоўнаславянскай мове, не загарэлася душа, нават, можна сказаць, аказалася адсутнай у непасрэдным успрыняцці. І вось зараз не проста чытаю, а паглынаю і канспектую! Ад Матфея: “Дева во чреве приимет и родит Сына, и нарекут имя Ему Еммануил, что значит: с нами Бог (...) У тебя же, когда творишь милостыню, пусть левая рука твоя не знает, что делает правая, чтобы милостыня твоя была в тайне. (...) Не судите, да не судимы будете, ибо каким судом судите, таким будете судимы; и какою мерой мерите, такою и вам будут мерить. И что ты смотришь на сучок в глазе брата твоего, а бревно в твоем глазе не чувствуеш? Или как скажешь брату твоему: “дай, я выму сучок из глаза твоего”, а вот, в твоем глазе бревно? Лицемер! Вынь прежде бревно из твоего глаза и тогда увидишь, как вынуть сучок из глаза брата твоего. (...) Просите и дано будет вам; ищите, и найдёте; стучите и отворят вам; ибо всякий просящий получает, и ищущий находит, и стучащему отворят. (...) Так, во всем, как хотите, чтобы с вами поступали люди, так поступайте и вы с ними, ибо в этом закон и пророки. (...) так как Сын Человеческий не для того пришёл, чтобы Ему служили, но чтобы послужить и отдать душу Свою для искупления многих”.

Адчуванне, што паездка ва Уладзімір – Суздаль спрычынілася да адкрыцця глыбокіх крыніц у маёй душы... І нібы пачынаю бачыць знутры. Нарэшце вяртаецца мне тое, што мне і належыла, а было страчана ці не запатрабавана, тое, па чым хіба тужылася здаўна...

27 лістапада

Апошнія дні гармонія ў душы, нягледзячы на невыразнасць сітуацыі са стацыянарам, тую ж манатонію карэктарскай, якая раптам перастала раздражняць. Не трэба рабіць намагання, каб не пакрыўдзіцца і, зразумела, іншага не пакрыўдзіць. І няма боязі, што праміне гэты стан. Самадастатковасць? Магчыма, нічога вартаснага не напішу, не скажу – адкуль ведаць. Але адчуваю сябе шчаслівай. Шчасцем, якое, здаецца, ні каханнем, ні мацярынствам, ні натхненнем, ні поспехам не даецца. Шчасцем, якое вынік усяго разам узятага. Ад знешняй актыўнасці, дзеяння – да духоўнай засяроджанасці. Так, гэты мой стан цяперашні, разумею, часовы. Але ж дзёрзкае памкненне свет спасцігнуць, у сябе ўвабраць як мага болей з вопыту чалавецтва – дзесьці на перыферыі душы зараз, аб чым, як ні дзі ўна, і не шкадую.

2 снежня

Сапраўдная зіма з марозам, снегам, сонцам. Над Евангеллем ад Луки: “Наконец будьте все единомысленны, сострадательны, братолюбивы, милосердны, дружелюбны, смиренномудры; не воздавайте злом на зло или ругательством за ругательство; напротив, благославляйте, зная, что вы к тому призваны, чтобы наследовать благословение. Ибо, кто любит жизнь и хочет видеть добрые дни, тот удерживай язык свой от зла и уста свои от лукавых речей; уклоняйся от зла и делай добро; ищи мира и стремись к нему, потому что очи Господа обращены к праведникам и уши Его к моливе их, но лице Господне против делающих зло (чтобы истребить их с земли)”.

Са шкадаваннем дачытала дылогію Алеся Адамовіча “Сыновья уходят в бой”. Хочацца далей

пабыць у створаным пісьменнікам свеце, пscore-назіраць за Толем, бо твор аўтабіяграфічны, і Алесь Міхайлавіч так шмат свайму герою, відаць, ад самога сябе перадаў...

7 снежня

Учора пазваніла вучонаму сакратару, а ён раптам: “Збірайце манаткі ў выдавецтве!”. Напісала заяву на імя дырэктара Ф. І. Савіцкага аб звальненні па ўласным жаданні ад 15 снежня. Такая была ўзбуджаная, што галава разбалелася. Не верыцца. Ужо цяпер, калі мары рэчаіснасцю стаюцца, зноў да мяне трывога заўсёдная падбіраецца, якая ўвогуле, відаць, комплексам непаўнацэннасці завецца, а, маўляў, ці справішся... І адзіным выратаваннем зараз у гэтай непагодзе душэўнай – Евангелле. Чытаю і далей канспектую. Пяццю хлябамі і дзвюма рыбамі Хрыстос дзесяткі тысяч людзей накарміў!..

Дні стаяць чыстыя, ясныя. Дакраніся – зазвініць блакітна-белы абшар. Бяроза – само далікатнае хараство, асабліва ў такую снежнасць і сонечнасць. Вярталася з Дараганава электрычкай. Дзень няўхільна гаснуў і трымцела затрымаць надыход сутоння, каб насыціцца дзённым хараством свету, такім кароткім у снежні! Зусім рана, амаль ужо апоўдні, краі блакітнага купала пачынаюць паціху імгліцца...

10 снежня

Пасля Уладзіміра – Суздалі не пазнаю сваю душу – святло, ціхамірнасць і нешта такое, што даступнымі, вядомымі мне словамі не вызначаецца....

12 снежня

Апошняя гадзіна ў карэктарскай?!! Працоўную кніжку забрала, апошнюю дзённую норму зрабіла. Кнігі, кубак, чаравікі спакавала. Стол вычышчаны для пераемніцы. Лаўлю розныя позіркі: ласкавыя, зайздросныя, запытальныя... Не верыцца, што з панядзелка не трэба ўжо будзе з дня ў дзень раніцай ляцець сюды. П'янею ад прадчування волі...

13 студзеня **1981**

Позні навагодні вечар па старым стылі. Святочнасць часу, таемнасць пераходных імгненняў... Лічыцца, што ўсё задуманае ў гэтую ноч спаўняецца. Быў бы ты, 81-шы, – яшчэ раз прашу – шчодрым на рупную працу і добрыя вынікі яе, на дарогі і сустрэчы. І каб выказалася, напісалася, каб далей тварыўся цуд у душы... Cognosce te ipsum!

27 студзеня

Запоўніла разам з Алесем Міхайлавічам індывідуальны план, напісала заяву на камандзіроўку ў Інстытут славяназнаўства і балканістыкі. Асвойваць Маскву ў новай іпастасі?! Трэба пабегаць па кнігарнях, каб да выезду знайсці "Карнікаў" для дырэктара Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Дз. Ф. Маркава. У самога аўтара – дэфіцыт запасных асобнікаў. Размова з Алесем Міхайлавічам. Прыемна, што параіў чытаць уважліва Бялінскага, якога я сама здаўным-даўна так сумленна чытала і канспектавала. Перакладала Андрыча. Прачытала "Імгненні" А. Ісаковіча, зрабіла выпіскі. З "Вячэрнім Мінскам" прыйшоў ліст ад Данкі. І адразу ж села пісаць адказ у Дрэздэн.

9 лютага

На Беларускім вакзале, у чаканні. Насуперак

трывогам хутка, зусім не блукаючы, знайшла акадэмічную гасцініцу на Ленінскім праспекце і Інстытут на Ленінградскім. Была ў дырэктара! На яго метадалагічнае абнаўленне метаду сацыялістычнага рэалізму так шмат і з такой павагаю цяпер спасылаюцца, што я аж здранцвела на нейкі момант перад аўтарытэтам, зайшоўшы ў кабінет. Вельмі прыемны пажылы чалавек, хударлявы, каравокі. Два разы руку мне паціснуў. Перадала кнігу. Пра Адамовіча, Інстытут распытваў. Як мне ад гэтага майго дрымучага правінцыялізму выбавіцца! У тры гадзіны – на кансультацыю ў Інстытут да загадчыцы сектара сучасных сацыялістычных краін С. А. Шэрлаімавай.

10 лютага

Калі запісвалася ў Бібліятэку замежнай літаратуры, падыйшла Г. Я. Ільіна, якую якраз упаўнаважылі кансультаваць мяне ўчора ў Інстытуце. Адразу ўзнік давер да яе, такой лагоднай, інтэлігентнай. Можна сказаць, чарговы раз проста ўлюбёная ў чалавека! І сабой незадаволеная, бо зашмат гавару, як спяшаюся сябе раскрыць, але ж няма ў тым патрэбы!

Доўга, да знямогі працавала ў каталогах. Здаецца, што момантамі апынаюся на самым краі сваім, за якім – бездань. У карэктарскай думалася, што варта мне толькі пазбыцца той манатоніі, як узнімуся, ураўнаважуся. І вось гарую цяпер па днях, прасякнутых унутранай радасцю і ўсепрабачальнасцю, якія падхапілі мяне пасля Уладзіміра – Суздалі. Нібы паказана было, да якога стану душы трэба імкнуцца...

13 лютага

У Інстытуце ў Трубнікоўскім завулку – добрая

размова з Галінай Якаўлеўнай. На руках мінімальная праграма па югаслаўскай літаратуры. Спраўлюся? Сёння можна было б і з’язджаць. Стаміла шматлюдная, велізарная Масква. Запісалася ў Ленінскую бібліятэку. Спачатку ў каталогах разглядалася, а пасля знайшла месца ў чытальнай зале, агромная, а ўся запоўнена. Пасядзела з гадзіну і пакіравала ў кінатэатр “Кастрычнік”, каб паглядзець фільм “26 дней из жизни Достоевского”. Іграюць артысты кепскавата, але вялікі дух перамагае, выйшла ўсхваляванай – Дастаеўскі! З якога часу ён прысутны ў маім жыцці? Здаецца, што заўсёды быў. Хочацца патрапіць неяк у наша беларускае Дастоева...

15 лютага

Загорск. Троіца-Сергіева лаўра. Святло, вышыня. Гарачыя слёзы просяцца з вачэй. Мноства людзей. Манахі ва ўсім чорным – упершыню бачу! У трапезнай ішла служба. Паўзмрок і людзі, людзі, нават дыхаць цяжка. Хацелася ўпасці на калені і горача-горача маліцца... А маліцца якраз не ўмею, не ведаю малітваў і паўтарала перакручана, прыблізна “Отча наш”. Так хочацца, хочацца маліцца! Сілы дае малітва і штосьці сутнаснае ў чалавечай прыродзе закранае. Адчуваю ў сабе жывую крынічку, якая ні ад здольнасцей, ні ад сардэчных повязей, якая сама па сабе, а я жывая, пакуль яна струменіць знутры. Па-рознаму, то слабей, то мацней. І мае дні ў прамой залежнасці ад сілы яе. Што ў нас чалавечае?!. Дзе яно, гэтае чалавечае, пачынаецца і канчаецца?!. Чым розьнімся ад іншых жывых клетак...

16 лютага

Заўтра мне – дваццаць шэсць... У Ленінцы, чы-

таю, вяртаецца форма студэнцкая, калі так плённа сядзелася ў бібліятэцы, здаралася, ад раніцы да вечара. Год таму чытала ў Акадэмцы “Карнікаў” Адамовіча – год як дзень... Нарэшце маю магчымасць займацца сваім і ісці да выразнай мэты, хоць халадок нерашучасці ўсё яшчэ адчувальны. Але ж, каб мець вынікі, трэба запаўняць кожны свой дзень адпаведным зместам, сумленна працаваць. Дваццаць шэсць – некаторыя паспявалі за гэты час нарадзіцца, вырасці, выказацца дзеяй, мастацкім шэдэўрам і памерці... Разумею, што найперш трэба быць чалавекам. І любіць людзей не за тое, што любяць цябе, а за чалавечае ў іх. Пакуль што так складана разабрацца, што да чаго ў гэтым свеце. Не хапае пачуцця веры, вышыні, якія не заслугамі і поспехамі знешнімі вызначаюцца і найчасцей скрыўджанымі штодзённай мітуснёй аказваюцца. Толькі шчырасць гарантуе адказнасць за кожнае злое пачуццё, што абражае, хай сабе тайна ад іншых, але ж успыхвае злосным пякучым агеньчыкам і чорныя выгарыны па сябе пакідае.

Спадзяюся, што дні, дзень за днём, прывядуць мяне да аркуша паперы, які мною выкажацца і будзе гэта маё зразумелым і патрэбным людзям...

2 сакавіка

Учора мамін дзень нараджэння і асляпляльны першы дзень вясны... Ночы стаяць яшчэ марозныя, зорныя, раніцы пачынаюцца ціхай усмешкай сонца свету, якая хутка ўбіраецца ў сілу і абяцае вялікія перамены ў прыродзе. У настроі чалавечым!

Чакала на станцыі цягнік. Побач лакаматыў таксама чакаў, каб дарогу яму даў пасажырскі дызель. Нецярпліва працаваў рухавік. Сонца, снег такія, што нават вачам балюча. І раптам на дарозе ўздоўж чыгункі – павольная жалобная працэсія.

Машына з труною ў адкрытым кузаве, крыж, невялікі натоўп засмучаных людзей. У гэты цудоўны першы сакавіцкі дзень некага везлі на апошняе месца яго зямное. Смерць. І праціла холадам знутры, бо страх за блізкіх людзей не-не ды сціскае сэрца. Час мільгае і немінуча набліжае ростань з тымі, без каго свет пусты. Або я сама раней сыйду?.. Самае лёгкае не нарадзіцца, каб потым не пакутаваць. Але ж без горычы не бывае радасці.... Толькі як можна жыць, калі раптам нехта з тваіх самых-самых родных ды і проста дарагіх назаўсёды знікне з зямлі? Добра, што ёсць даўгі, абавязкі, якіх ніхто за цябе не выканае. Паспець знайсці сваё, умацавацца, пакуль пачнуцца страты, апярэдзіць непазбежнае...

Усё маё свядомае жыццё прасякнута радасцю быцця, адчуваннем прыгажосці свету. Ды такім моцным, гарачым, што балюча часам. Мінорная нота заўсёды гатовая ўзняцца, загучаць. Яна і ў прадчуванні блізкай ці далёкай ростані зямной, і ў вычуванні руху часу. Хвіліны, гадзіны – то ва ўнісон майму ўнутранаму пульсу, то возьмуць і рэзка супрацьпастаўяцца. Калі я забываюся аб часе наогул, не гляджу на гадзіннік, я сумленная перад яго вялікасцю і належу Вечнасці. Выпадаюць такія імгненні. Калі ж бясконца ўглядаюся ў рух стрэлак, пакутліва тупаю ў адным месцы – грашу. Трэба імкнуцца да першага стану, што азначае перамогу духу над целам.

18 сакавіка

Якая радасць сёння – маю нарэшце “Идиота” Дастаеўскага! Проста эйфарыя ахапіла, калі пабачыла ў кіёску кнігу, пра якую здаўна марыла.

У панядзелак – секцыя крытыкі і літаратуразнаўства ў Доме літаратара. Янка Брыль, сама яго

прысутнасць дух уздымае. Адчуваю сябе маленькай, дурненькай перад ім. Хоць ён ведаць не ведае пра мяне і пра тыя думкі, пачуцці, якія выклікаюць ува мне яго творы і ён як асоба. Шчаслівыя яго блізкія і якое шчасце для нас усіх, што ён ёсць!

Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі, Вера Палтаран... Мне нязвыкла, няёмка. Прозвішчы, знаёмыя па кнігах. Хоць ужо і прывыкаю... Утульны Дом. Хочацца, каб было пра што гаварыць з гэтымі людзьмі тут.

Сапраўдная літаратура выклікае натхненне і прыліў свежых сіл, вясну пачуццяў. Думала толькі прагарнуць кнігу славенца Цырыла Космача і заканспектаваць уступ. Чытала ж раней з захапленнем яго "Баладу аб трубе і воблаку", а гэтым разам не змагла адарвацца ад "Вясновага дня". Журба, сум, жыццё і смерць, надзея, чаканне. Штосьці зрушваецца ў маіх унутраных сутарэннях. Быццам мяняюся пад уплывам вялікай літаратуры сербаў, харватаў, чарнагорцаў, славенцаў, набрыньваючы новай вобразнай інфармацыяй. Мой Андрыч, Добрыца Чосіч, Міхайла Лаліч, Бранко Чопіч, Меша Селімавіч, Міраслаў Крлежа, Антоніе Ісаковіч, Мірка Божыч...– цэлы сусвет, без якога не ўяўляю ўжо свайго жыцця.

15 красавіка

Удалося! Дзякуючы Віктару Антонавічу Каваленку аказалася на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Паабяцаў і прынёс мне білет. Правяралі ж вельмі строга: на самім уваходзе ў Палац культуры, а пасля яшчэ непасрэдна пры зале. Білет і дакумент трэба было паказаць. Чаму? Няёмка перад дзяўчатамі, бо і яны – аспіранткі Інстытута літаратуры! – хацелі патрапіць на гэта ўвогуле ж свята. Алесь Міхайлавіч адазваўся, пабачыўшы

мяне: “І вы пранікслі. Малайчына...” Адшукала Ніну. Побач з ёй. Выступалі Пімен Панчанка, Максім Танк, Іван Чыгрынаў, Анатоль Вярцінскі, Язэп Семяжон, Алесь Адамовіч, Аляксей Карпюк, Адам Мальдзіс, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Караткевіч і іншыя-іншыя. Вочы мае разбягаліся, а галава ішла кругам у літаральным сэнсе. Да Ніны шмат падыходзяць, каб прывітацца. А хто я пры ёй? І калі карэспандэнт Уладзімір Крук падчас перапынку прапанаваў зрабіць фотаздымак пісьменніцкай сябрыны вакол Ніны, як сышліся Ларыса Геніюш, Уладзімір Караткевіч, Данута Бічэль-Загнетава, Валянціна Коўтун, я адышла... Цікава, у Саюзе пісьменнікаў – 301 мужчына і толькі 36 жанчын. Усё ж найбольш памятныя выступленні – Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Караткевіча. І Янкі Брыля! Балюча, што яму ўжо 64 гады, а і блізка няма яму падобнага сярод маладзейшых. Словы заклапочанасці, трывогі за стан нашай мовы, літаратуры, урэшце – душ чалавечых. І з Станіславам Пятровічам пагаварылі крыху. Заахвочвае пісаць... Бясконца яму ўдзячная.

23 красавіка

Азарыла: што яднае Андрыча і Брыля? Ад Брыля – да Талстога Льва Мікалаевіча. Яднае шчырасць, пранізлівая ступень шчырасці.

29 мая

З прыгодамі ўладкавалася ў старой акадэмічнай гасцініцы “Якар” на Горкага, паблізу ад Беларускага вакзала. Падчас вайны ў эвакуацыі тут жыў з сям’ёй і тварыў Кузьма Чорны!.. Вялізная лямпа пад чырвоным шаўковым абажурам. Святло ўтрымліваюць ці, наадварот, на святло ляцяць тоўсценькія купідоны-хлапчучкі з пазалочанымі кры-

льцамі. Шырачэзныя падваконнікі – праз іх не звесішся, каб выглянуць на вуліцу, хіба што трэба залезці з нагамі... Званіла Г. Я. Ільіной, адзначыла камандзіроўку на Ленінградскім праспекце. Музей Л.М. Талстога на Крапоткінскай – узвышанае судакрананне з жыццём Чалавека. Словы аб сумленні Талстога выпісала. Прасядзела каля трох гадзін у Ленінцы над кнігамі, якія Галіна Якаўлеўна параіла асвоіць. Добра прыхаваны трынаццаты аддзел: чатыры паверхі і яшчэ адна лесвіца, калідорам налева і зноў налева. Старая і новая Масква за вакном. Залатыя купалы з крыжамі і чорныя трубы за імі. Хочацца пісаць аб жаночай долі, характары, дзецях. Як? Адкуль узялася гэтая туга па аркушу паперы? Вось жа вымучвае мяне ўжо колькі гадоў запар, не адпускае. Мяняюцца тэмы, сплываюць нязздзейсненымі задумы, каб ніколі ўжо не вярнуцца, а гэтая пакута не мінае. Мабыць, падтрымлівае яе надзея, абяцаючы, што вось-вось наступіць прасвятленне і нарэшце выкажацца, напішацца тое, што просіцца ў свет. Трэба толькі пераадолець яшчэ адну перашкоду. Так, пакута з тых, якія жыццю хоць бачнасць сэнсу надаюць і калі боль у сабе адчуваю – значыць жывая. Пакута, якую гоніш і галубіш адначасова...

4 чэрвеня

Ідэальны стан духу (для мяне). Унутраная раўнавага, лёгкая журба, адкрытасць хараству, прыгажосці, імкненне дапамагчы, паклапаціцца. Моцнай сябе адчуваю. Загорск – прычынай? Калакольны перазвон над зіхатлівымі купаламі пад мяккім блакітам з белымі аблокамі. Была ў падмаскоўным Абрамцава – Аксакаў, Паленаў, Рэпін, Васнецоў. Першага чэрвеня ў тэатры Маякоўскага “Чайка”

А. П. Чэхава – з Таццянай Даронінай, Яўгеніяй Сямёнавай. Балкон, другі ярус, але цудоўна было ўсё і відно, і чутно. Жыццё на сцэне. Учора добра чыталася, а выйшаўшы з бібліятэкі, пакіравала на Арбат. Прыемна было паволі ісці і спакойна ўглядацца ў твары сустрэчных, разглядаць дамы, заходзіць у невялікія крамы, а тым часам аднекуль думка наплыла, што недзе тут жа на Арбаце тэатр Вахтангава, што добра было б у яго патрапіць. Недзе перад сёмай падышла да будынку тэатра ў рыштаваннях – рамантуюць фасад. І нейкая дзяўчына нечакана прапанавала білет! Спектакль “Двери хлопают”. У Мінску глядзела, але, зразумела ж, пайшла. “Купалаўцы” не горш ставяць. Ну, вядома, рэч вадэвільная, вясёлая. Адкрыцця для душы і не належыла чакаць, але ж для агульнага развіцця штосьці засталося...

8 ліпеня

Польная Гаслаўшчына. Прасторная хата Данкіных бацькоў. Маленькі Эдвард заснуў, слаўнае, мілае дзіця. Так і хочацца цiскаць яго, мілаваць. Пухленькія шчочкі, выразныя блакітныя вочы. Так натуральна, што гэта Данкін сын!

Учора насычаны дзень. Адзначылася Данка ў міліцыі, запісалася ў акадэмічную бібліятэку. І найгалоўнае – яе сустрэча, знаёмства з Алесем Міхайлавічам. Маё пасрэдніцтва. Цікава было назіраць за Алесем Міхайлавічам, як трымаўся з Данкай – стрыманасць, а ўсё адно эмацыянальнасць адамовічаўская. “Не ўбій” – новы яго ідэал. І ад бездані чалавечай подласці – да проста касмічнага гуманізму... Данка збіраецца пісаць дысертацыю па творчасці А. Адамовіча ў Дрэздэнскім педагагічным інстытуце ў семінары па ваеннай прозе. Мне ж да 25-га, хоць памры, трэба пад-

рыхтаваць артыкул!

15 ліпеня

На добры лад, дык сядзі і пішы сабе – спакойна, упэўнена, бо матэрыял ёсць, думкі таксама. А я дрыжу над чыстым аркушам. І пачынала ж адразу "ідэалагічна" і пакацілася гладка, хоць і нецікава, па сцежках, пратаптаных іншымі. "Навукова", суха, як ці не ўсе ў акадэмічныя "Весці" пішуць, але ж сорамна пісаць "навуковаабразна"! Толькі ці змагу я справіцца з матэрыялам, падпарадкаваць яго сабе?! Трэці дзень спрабую ўлагодзіць у сабе плынь, якою вызначаецца маё самавыяўленне. Перачытала раман, паспала і без справы ляжала, гультайнічала. Вядома, сумненні. Гэтыя старыя, як свет, здраднікі. Адчуваю, што калі здолею зараз пераадолець сваю інерцыю, выпрастацца, раскрыцца насустрач "свайму", дык і далей усё складзецца належным чынам. Такое важнае гэтае паўгоддзе! Кандыдацкія экзамены: па югаслаўскай літаратуры – у кастрычніку, беларускай – у снежні. Вытрымаць гэты рытм у імя жыцця майго, якое ніхто за мяне не пражыве... Можа стацца, што не напішу артыкул, што Алесь Міхайлавіч забракуе. Але ж не надарэмна гэтыя пакуты! Вунь як доўга круцяць ключом, каб завесці застаялую машыну. І спыняцца потым нельга, але мо я такая старызна ўжо, што і не завесціся "матору"?!!

23 ліпеня

Калі нарэшце я перастану пакутаваць ад немагчымасці выказацца, калі адкрыюцца шлюзы майго "красамоўства" або перасохне тое, што распірае мяне, зацінае дыханне. Мая бездапаможнасць перад словам. Праклінаю я гэтую пакуту і люблю ж

яе!.. Нават у дзённіку не магу дакладна вы-казацца. Дыстанцыя паміж пачуццём і словам. Як яе пераадолець...

Праўда, артыкул, здаецца, закончаны. Гэта і Лада, галоўнага героя рамана Лаліча, і маё ўзыходжанне на Лялейскую гару. Тыдзень не была ў бібліятэцы і нават з лёгкім хваляваннем часопісы і кнігі брала. Алесь Міхайлавіч толькі праз пару дзён вяртаецца у Мінск.

Янка Брыль: "Маё юнацкае захапленне Талстым прывучыла мяне да пэўнай самастойнасці, да ўмення не баяцца быць <не такім як усе>. Гэтая якасць сяды-тады абуджаецца ў маёй натуры і дае сілы быць самім сабой, не вельмі баяцца самоты, абыдзенасці, няласкі".

28 ліпеня

Перад самай дзевятай не сцярпела: пазваніла кіраўніку. Ён чытаў мой артыкул, на восьмай старонцы. Пакуль падабалася. Я ж, што на важнейшым экзамене была. *Сам* Адамовіч маё чытае! Пераконвала сябе, што нічога не зменіцца ад яго ацэнкі, што застануся пры тым жа стале з машынкай, з тымі ж зялёнымі вачыма і русымі валасамі, у той жа мамай звязанай стракатай камізэльцы. Але ж як трымцела, каб Алесь Міхайлавіч станоўча ацаніў гэтую маю працу! Прыбавілася б мне звычайнай чалавечай годнасці, якой катастрафічна не хапае, нягледзячы на ўсе заходы мае, каб ёю разжыцца... Падабаюся ж сабе эпізадычна ў люстэрку толькі. І якая радасць – даў дабро Алесь Міхайлавіч! Напісаў рэкамендацыю ў "Весці". Адчула сябе шчаслівай, проста да непрыстойнасці!

10 жніўня

Адкуль толькі ён бярэцца – гэты тупы боль?! Адымае радасць жыцця, пасягае нават на знешнюю прыстойнасць, гатовую стрымгалоў рынуцца ў чужую стыхію. Другі дзень я хворая душою. І пакуль па нарастаючай пакуты. А трэба ж, ёсць магчымасць, займацца і потым пашкадую, што не выкарыстала яе. Інстытут. Аддала артыкул друкаваць у машбюро. Некалькі дарэмных гадзін у бібліятэцы. Не ўспрымаецца! І нянавісць да сябе. Снежным комам дэпрэсія, хандра, сплін – дур гэты! – накручваецца і ўсё тут. Не папярэдзіць, не абысці. Толькі перачакаць, пераżыць. Каб потым нечакана накацілася і ахапіла радасць. Ведаю, калі буду жывая, ахопіць. І аж заные, забаліць ужо ад перапоўненасці знутры. Вернецца ўпэўненасць у свае сілы, паверу ў магчымасць здзяйснення самых фантастычных мрой. І ныць буду, што не хапае сіл фізічных, каб успрыняць веды, пераżыць, зразумець. О, гэты стан прыйдзе... Як хочацца працаваць без зрываў, спакойна, радасна! Дзень за днём. І як адкантраляваць, падпарадкаваць розуму сваю псіхіку? Вось жа знаю, што ёсць ува мне *нешта* мацнейшае за мацярынства і каханне. Так, пачуццямі немагчыма кіраваць: яны або ёсць, або іх няма. Але ж тое *нешта* неназываемае, без апазнавальных абрысаў. І калі пачуцці ў асноўным скіраваны на канкрэтных людзей, дык *тое* накатваецца, прасякае наскрозь і я губляюся ў сабе самой. Ці сутнасць мая з *тым*, праз *тое* таксама выяўляецца? Цьмяна адчуваю, што *тое* існуе ў дзвюх іпастасях: цёмнай і светлай. І звязаны з *тым* хвіліны ўздыму, калі ў гармоніі са светам, з Вечнасцю нават. І нянавісць мая, непрызнанне сябе ў бязмежна цудоўным свеце, сорам перад чалавекам і чалавецтвам – адтуль жа. Крыніца, якая

наталяе мяне то жывой, то мёртвай вадою. Хто ж я?!! Пытанне, якім здаўна задаваліся не-спакойныя, спакутаваныя людзі. І вырашалі?! Прастаты і дасканаласці прагне душа. Што суджана ёй?!

13 жніўня

Адзінока, самотна, туга. Душу выварочвае. Ліплю, ледзь трымаюся за свет. Бібліятэка. Падстрыглася – зноў хлопчык, стараваты хлопчык з лапкамі маршчынак вакол вачэй. Хутка нельга ўжо будзе так стрыгчыся... Як заведзены робат рухаюся, раблю па звычцы ўсё, што належыць, а баліць, баліць душа, недзе пад сэрцам, у горле, у галаве – касмічным болем пакуль, бо гэта не сардэчны, не галаўны боль. Пакуль не той боль, ад якога таблеткамі ратуешся. Адзінота. Каторы дзень я ўжо так пакутую? Пяты! Замнога. Міхася Стральцова зрэдку чытаю, імгненнямі захапляе, здорава піша. Хочацца сыйсці з дому, пакіраваць да людзей, а нельга, бо перацятая і самой з сабой трэба спраўляцца. І як я зайздрошчу ў такія моманты, што днямі цягнуцца! – жанчынам, якія важна на кухні  стаяць, ахвотна тэлевізар глядзяць, у кінатэатр з цікавасцю ідуць... Робяць усё з адчуваннем уласнай годнасці, непарушнасці свету наўкола іх. А я, нікчэмная, нашу  ў сабе боль, незадаволенасць, старэю раней часу. Што са мной дзеецца? Бываюць жа дні, калі радуюся абновам і ля люстэрка кручуся, калі падабацца хачу і з задавальненнем гатую, мыю. Бываюць! Зараз мне здаецца, што ў другога чалавека – не ў мяне, такія дні бываюць.

20 жніўня

Чакала маму. Без яе хата – чатыры цесныя куты. Няўжо калі-небудзь яе не будзе, а я буду?!!

Гэта немагчыма! Пад вечар выйшлі з Данікам на шпацыр, а атрымалася, што і ў грыбы. Сыраежак і лісічак назбіралі. Данік доўга гарэзліва гукаў: “Дзе балота? Пабеглі цягнуць бегемота!”

Халодныя росныя ранкі. Пачарнеў агурэчнік, даспяваюць памідоры. Слухаю цішыню, упэўненая, што па ўсёй зямлі чуваць, як гупаецца налітае сокам крамяное антонаўскае яблыка побач з спрадвечнымі пчалінымі хаткамі ў нашым садзе... О, маё роднае!.. І са шкадаваннем гляджу на свет, бо ў дваццаць шэсць адчуваю, як хуценька бяжыць, прабягае маё чалавечае лета. Адчуваю, што ўспомню некалі – яно блізка гэтае “некалі”! – аб днях, калі мой хлопчык яшчэ маленькі і плача, шкадуючы кацянят з добрай казкі Маршака, калі сама збіраю сілы фізічныя і маральныя, каб годна прайсці праз аспірантуру... У кожным з нас ёсць вечнае. У кожным, такім часовым на зямлі. І ёсць тое, што належыць толькі сённяшняму дню. У адных больш першага, а ў іншых другога. А ўва мне?..

22 жніўня

Даніка вострa хвалюе пытанне ўласнасці. Мне: “Ты не бабіна, ты мая!”. Бабулі Мані: “Мама не твая дачка, я твой”. Стараецца адшукаць у кожнай рэчы маму. Сярод вяргінь большую выбірае – мама. На малюнку маму для звяркоў выглядае. А яго ўласная мама ціхенька збіраецца і збягае да цягніка, каб “сягнуць” у навуку... Тужліва, хоць у пятніцу і суботу проста зорны стан быў. Блукала па лесе і шмат-шмат адзывалася ў душы. Успаміналіся першы і другі курсы, калі летуценнай і чыстай была, сапраўды імкнулася да зор... Зараз я мацней, чым тады. На новай ступені высокі сэнс існавання адкрываецца. Няшмат грыбоў сабрала ды

знайшла, здаецца, большае. І такі лад быў два дні ў душы! Спявала душа. Вось сёння ўжо як разлічваюся за тое здароўе душэўнае – мінор, неспакой, прадчуванні. Але ж дзесь ува мне схаваны той светлы стан, які зноў выявіцца можа. Трэба старацца браць з часу толькі тое, што здароўю душэўнаму садзейнічае – ад людзей, з кніг, падзей і сцежкі выбіраць, на якіх душа ў светлым умацоўваецца...

27 жніўня

Наша вуліца пераходзіць у дарогу, якая губляецца ў лесе, уліваецца пасля ў брукаваны гасцінец, а далей, далей імкнецца ў вялікі свет і я разам з ёю... І яшчэ адна мая дарога ў свет – чыгунка. Звязвае ў адзін вузельчык груклівай хуткасцю цягнікоў кіламетры і маю прагу новых месц і гарачую любоў да іх, любоў – ад якой сэрца заходзілася ў раннім юнацтве. Пцічанская плынь, аточаная дубамі – адразу за бальнічным дваром. Лес пры дарозе – амаль каля хаты, абтупаны, абгледжаны з маленства... Сную ў апошнія гады між Мінскам і Дараганавам часцей частага і ўсё мацней прырастаю да роднага, хоць, здавалася б, куды болей...

Аднак ужо ціха хочацца ў бібліятэку, хоць і з’язджаць балюча... Сяброўства. Данкі не хапае! Адагрэла яна мяне, прагнецца цяпла і далей. Наша еднасць духоўная. Маё выратаванне – у працы. У сяброўстве. Трымаць у руках пачуцці, якія бессаромна мкнуць толькі, можа быць, да шчасця, абмежаванага ўласнай столлю.

5 кастрычніка

Вялікай радасцю, падтрымкаю – прасякнуты святлом і сардэчнасцю ліст ад Ніны. Ласкавы, ла-

годны і журботны... На 30-га кастрычніка прызначаны экзамен па югаслаўскай літаратуры ў Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі... Сёння прачнулася без прычыны а чацвёртай. Чытала "Залатую ружу" Паўстоўскага. Амаль кожны дзень – Моцарт, Шапэн, Грыг, Рахманінаў... І бачу перад сабой Твар, усепрабачальныя вочы з фільма аб Андрэю Рублёвым. Хочацца вось зараз, адразу ў Храм Божы, упасці на калені і маліцца, маліцца. Момант, калі аддаляюцца ўсе разумаванні, штодзённыя мітрэнгі. Аказваюся пры прасторнай дарозе, якою ручаіны, струмені святла імкнуць. Ці ў маю душу ўліваюцца?..

23 кастрычніка

Трубнікоўскі завулак. Стары будынак Інстытута славяназнаўства і балканістыкі. Пехам з "Якара" па вуліцы Горкага. Учора бледна-ліловымі хрызантэмамі з палыновым пахам Ларысу павіншавала з днём народзінаў. Адзначылі смачнымі тульскімі пернікамі з малаком яе дваццацішасціgоддзе ў гасцінічным пакоі... Унутраная работа, што адбываецца нібы амаль без майго ўдзелу. Нашу ў сабе бездань, якая то пашыраецца, паграseverна расціснуць, то звужаецца і месца маім пачуццям аслабаняе... Масква, сустрэча з ёй – зіхатліваю мараю маленства, здзейсненай у кастрычніку семдзесят чацвёртага і вось кастрычнік восемдзесят першага... Сем гадоў – так шмат пройдзена, пражыта, а ўсё недзе на пачатку да свайго самавыяўлення...

25 кастрычніка

У Царкве на Ардынцы. Горача вачам і чамусьці ніякавата ўглыб зрабіць крок, малілася сваімі словамі. Галава ж не хацела апускацца, а якраз

уздымалася. Над усім панавала Вышыня. Ураўнаважылася. Я прыйду сюды зноў, ужо не абцяжараная клопатам экзамена. Як шкада, што ў Мінску на амаль двухмільённы сталічны горад – толькі Святадухаўскі Сабор і Царква Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках... І мой дараганаўскі абшар увогуле пазбаўлены апекі ўзнесеных крыжоў. Якою гэта стратаю...

30 кастрычніка

Праходзілася праз кожны дзень з цяжарам на плячах і холадам чакання экзекуцыі. Дражніла здрадніцкае жаданне проста не з'явіцца на экзамен. Як цяжка ўсё ж мне даецца гэты рух-высілак да права сваім займацца! І атрымала "выдатна", хоць, як заўсёды хіба, сваім адказам незадаволена! Галіна Якаўлеўна падкрэсліла, што папрацавала я шмат. Напружання спружына са скрыгатам цяпер раскручваецца...

19 лістапада

Учора Я. Брыля "Птушкі і гнёзды" чытала амаль увесь дзень. Была ў Доме літаратара на вечарыне, прысвечаным 80-годдзю Міхася Зарэцкага. У прэзідыуме – старэнькая жонка, дачка і сын у гадах ужо. А пражыў муж і бацька толькі трыццаць шэсць гадоў! Забралі, абвінавацілі, забілі. Станіслаў Пятровіч – таксама ўжо неяк аслабелы і выступалася яму цяжкавата. У захапленні ад Янкі Скрыгана. І ён жа сядзеў, адбываў пакаранне за вернасць роднаму, беларускаму. Колькі задум не адбылося, колькі не рэалізавалася імі і многімі іншымі пакутнікамі! Трагедыя асабістых лёсаў і літаратуры, усяго народа беларускага – як такое магло стацца... І апошнім часам адкрываю для сябе, што гэта ж Вялікае Княства Літоўскае – бе-

ларуская гісторыя, што Вільня і наша сталіца. Пачуццё крыўды і віны адначасова. Дзеля чаго нас дэзарыентавалі, па сутнасці, абрабавалі з самага дзяцінства?!

9 снежня

Упершыню паспрачалася з Алесем Міхайлавічам – з-за розных падыходаў да напісання дысертацыі. Застаюся на сваім: метадалогія павінна быць. Літаратуразнаўства – навука, а не белетрыстычныя заметкі. У мяне ёсць думкі, ідэі, якія я хачу разгарнуць на матэрыяле дзвюх літаратур. Думкі, відаць, не вельмі арыгінальныя, агульнавядомыя, але ж я самастойна вынаходжу свой веласіпед, каб навучыцца мысліць, авалодаць пакрысе літаратуразнаўчай культурай. Няхай сабе гэта пакуль што нават трохкалёсны веласіпедзік. Нельга адразу за складанае, глабальнае брацца. Расцісне цяжар. Паступовасць. Алесь Міхайлавіч прапануе "пісьменніцкі падыход".

Слухала Моцарта. Свет рассунуўся, падабрэў, геніяльнай музыкай прасякнуты. Затрымцела, адазвалася душа ўжо калі толькі клала на дыск пласцінку. Гэта дзякуючы таму, што амаль з дня ў дзень з класікай. Музыка стала патрэбай душы... Значыць, душа гэтая ўсё ж паддаецца выхаванню. Толькі не прабачаць сабе, не шкадаваць сябе!

27 снежня

Чытаю "Освобождение Толстого" І. А. Буніна. Апошнія, адны з апошніх слоў Льва Мікалаевіча Талстога: "Все я... все проявления... довольно проявлений... вот и всё... ". І далей:

"– Избави Бог жить только для этого мира. Что -бы жизнь имела смысл, надо, чтобы цель её выходила за пределы постижимого умом челове-

ческим.

– Дорого и радостно общение с людьми, которые в этой жизни смотрят за пределы её.

– Моё Я стремится расшириться и в стремлении сталкивается со своими пределами в пространстве. (...) Кроме сознания пределов в пространстве, есть еще сознание себя – того, что сознаёт пределы. Что есть это сознание? Если оно чувствует пределы, то это значит, что оно по существу своему беспредельно и стремится выйти из этих пределов.

– Жизнь, которую я сознаю, есть прохождение духовной и неограниченной (божественой) сущности через ограниченное пределами вещество.

– Жизнь человека выражается в отношении конечного к бесконечному.

– Бесконечное, которого Человек сознаёт себя частью, и есть Бог".

Навошта мне гэта – у Буніна аб Талстым? Евангелле, Альберт Швейцар, думкі "разумных"? Ды ў моманты судакранання з гэтым вялікім рацыо, такім далёкім, здавалася б, несувымерным з магчымасцямі маёй сціплай асобы, набываю маральныя сілы, каб ісці праз будні і любіць іх. А потым, калі перасыхае жывая крынічка ў душы, зноў пакутліва шукаю апраўданне свайму часу...

Маё, такое нібы натуральнае, памкненне быць прыемнай знешне – не хачу вылучацца, а быць пры тым апазнавальнай, мець пэўныя кнігі і пласцінкі, зручныя рэчы, якія мінімальную ўтульнасць забяспечваюць. Колькі ж у гэтых маіх жаданнях праяў духоўнага?!. І даходжу да высновы, што, відаць, калі б лёгка адразу мне ўсё па жыцці ў матэрыяльным плане давалася, была б жорсткай, не адчувала б патрэб іншых. І вакол шмат людзей, якія маюць менш за мяне. Ці спагадаю я ім? Мая

пагоня за матэрыяльным – экзамены матэрыяльнае! – зблажыла маю душу, якая ва Уладзіміры – Суздалі абудзілася, акрылілася. Ёсць нейкая мера паміж рухам знешнім і ўнутраным. Нельга яе парушаць беспакарана. Экзамены здадзены. Трэба б распрыгоніцца, а я ўсё адно бы ў кут загнаная. Як балюча біцца галавою аб столь сваёй абмежаванасці. Як бы не змарнаваць свой час і галоўнага так і не зразумець...

3 студзеня, **1982**

А жыццё – цудоўны, незвычайны дар чалавеку. Дачытала ўчора "Освобождение Толстого". Разумею, успрымаю ўсімі пачуццямі, бо, па сутнасці, рашаю ўсё сваё жыццё праблемы роднасныя. І апораю мне тое, што людзі да мяне над гэтым думалі, пакутавалі, а я звяном у ланцугу чалавечым агульным. Я – маленькая, прымітыўная, няздольная вывучыць дзве мовы. Так, і я, такая, пакутую над вырашэннем вечных пытанняў. У сілу сваіх магчымасцей, якія залежаць і не залежаць ад майго "я". Горычна, што не дадзена мне многага зразумець, сябе выявіць. І не аднойчы яшчэ працьме гэтая немагчымасць расчараваннем і крыўдай за бездапаможнасць сваю, жабрацтва духоўнае. Хоць прага да ведаў, да "выяўлення сябе" – нават пакутлівая. І няма мяне без яе. Няма! Яна мацнейшая за мацярынства, за каханне, хоць жывіцца і адным, і другім. Страшна пражыць свой час, састарэць целам, не нарадзіўшыся душою...

Данік позна ўвечары ў сваім ложку: "<Бярозу> напісаў Сяргей Ясенін. Кнігі піша пісацель. Мой Аргус быў у Адысея. Учора быў". Нешта застаецца ў галоўцы, нават калі нібы і не рэагуе дзіця адразу на інфармацыю...

17 ліпеня

Другі дзень на Фіяленце. Чорнае мора, смарагдавае, блакітнае, імгліста-срэбнае. Пакручасты спуск паміж гор, круцізну якіх час зрабіў плаўней, даступней для ног чалавечых. Хвалі, хвалі – бясконцы дыялог з берагам. Шчасце – мора іграе. Жывая сцяжынка ад каменя, на якім я сяджу, да краю, канца гарызонту – над ім нізка-нізка завісла агромністым  чырвоным шарам сонца. Яно ўжо не грэе, не фарбуе цела, але ж высвечвае, саграваe знутры... Сцяжынка вузкім промнем дакалыхваецца да мяне, а чым бліжэй да лініі далягляду, тым яна шырэй. Бясконцая хвалістасць плыве некуды ў бясконцую даль, магутнае пругкае цела не змяшчаецца ў адведзеных яму межах. Неверагодная бесклапотнасць. Схаваліся недзе мае заўсёдныя чаканні, перасцярогі, прадчуванні і незадаволенасць сабой. Шчасце!!!

25 ліпеня

Учора з самай  раніцы – горад-цуд Севастопаль, шчодра ўслаўлены і набліжаны да мяне Паўстоўскім. Міжволі чакаеш таксама, што вось-вось з’явяцца грынаўскія пунсовыя ветразі і Асоль! У парку вакол панарамы Севастопальскай вайны 1854 – 1855 гадоў – бастыёны, рэдуты і паўсюль усепранікальны, тонкі  водар акацый... Прыгажун-капітан у святочнай белай форме. Глянула і ахнула ды засмяялася з сябе. Пэўна, ідзе на спатканне да сваёй Асоль!  І, вядома,  Херсанес. Антычнасць. Руіны і жывое ласкавае мора, запоўненае безліччу прыхільнікаў. Студэнты археолагі-гісторыкі на цудоўнай практыцы. V век да нашай эры – XV нашай. Мільёны сэрцаў і ног разносяць па свеце сляды мінуўшчыны. Гэта ж і зусім юная Анна Ахматава некалі тут вершы свае вымройвала...

9 верасня

Што ёсць я? Выпадковасцю ў гэтым свеце? Вынікам чаго мой кожны дзень? Відаць, абставінаў, некаторыя з якіх выразна ад некага і нечага канкрэтнага залежаць, а іншыя я сама нібыта абуджаю, наступныя ж, згодна з “класіфікацыяй” маёй, тыя, што як бы самі сабой выплываюць. І якраз яны, гэтыя апошнія, найчасцей асаблівую радасць, нават шчасце даюць адчуць. Хоць яны звычайна – вынік руху як бы таксама па зададзенай *аднекуль* траекторыі...

16 верасня

Bettina verstorb! 27 жніўня, не дажыўшы трох дзён да сваіх дваццаць восьмых народзін... Дыягназ: сардэчная недастатковасць, а яна ж ніколі не скардзілася на сэрца. Трохадовая Лілянка асірацела. Бецiны няма! А я жыву, клапачуся аб дробязях, крыўдую, скарджуся. Атупелая ад валер’янкі. Услед за Бецінай у тую прорву скочыць хочацца. Mein liebes Schwesterchen! Гавораць на суцяшэнне, што такі Лёс яе. А мой лёс – яе аплакваць?! Канверт у траурнай чорнай рамцы. Бедная майко-мама. Напісала: “Заставайся мне дачушкай”. Застануся! Толькі б боль гэты перажыць. Разрыў па-жывому. Ужо спакойна паўз могілкі іду. Заўсёдная вусцішнасць як выпарылася.

25 верасня

Снілася пачвара, якая на вачах з маленькай чалавекападобнай жывёлінкі вырасла ў жахлівае стварэнне. Агіднае. Якое і апісаць немагчыма, бо нічога падобнага ў жыцці я не бачыла. Яна ганялася за мною. А я замахвалася, каб ударыць па вылупленых круглых вар’яцкіх вачах і шкадавала біць! Ці баялася? Прачнулася з падвойным адчу-

ваннем: страх, агіда і шкадаванне. Ці сумясціма гэта ў жыцці? І здаецца, што калі б гэтая пачвара дакранулася да мяне сваім доўгім, як гліст, хобатам, я памерла б ад агіднасці.

Малюся аб Бецiне, аб родных, аб тых, хто пакутуе. Хоць неяк мала, эпізадычна, апраўдваючыся патрэбаю душы... Напісала кароткі ліст майкомаме. Мой слабы deutsch замінае напоўніцу выказаць спачуванне і жаль. Сёння раптам адчула, што адпускае бездань. І адразу папракнула сябе: як жа хутка ты суцешылася. Апраўдвацца перад сабою? Не ведаю. Боль жывы ўва мне жывой.

7 кастрычніка

Учора сорак дзён як няма Бецiны. Пайшла ў Вечнасць! З новай сілай боль нахлынуў. Ліст ад майко. Родная мая. Хадзіла ў Царкву. Свечку паставіла ля іконы Мінскай Багародзіцы. Суха і няёмка было адразу. Слёзы паліліся, калі побач прайшоў з кадзілам святар. Увечары напісала ліст Дануце. Снілася нарэшце Бецiна. У тых жа мінскіх сініх портках і зялёнай куртцы, вясёлая. Гаварылі так, нібы яна проста з іншага пакоя зайшла і прысела на тахту...

17 снежня

Сорамна сваіх пяцідзесяці старонак. Вось Тамара Чабан сёння абаранялася – гэта дысертацыя! І адчуванне таго, што лёс мой перад дзвюма дарогамі застыў: налева – поўны крах, направа – здзяйсненне, узлёт. Ці наадварот? Адным словам, або забярэцца ад мяне усё, або прыдасца яшчэ. “Идиота” ўчора закончыла – узрушанасць, нярвовасць. Як я яго ў дзевятнаццаць чытала?! Данік, калі стрэлы з лесу данесліся, нечакана выказаўся: “Гэта Іван-Світаннік з братамі палюе...”

6 студзеня, **1983**

Чаму я прыдумала, што мой жыццёвы шлях мусіць менавіта праз аспірантуру пралягаць? Шлях да разумення сябе і іншых. Дапамога людзям, дабрыня да іх у дробязях і ў вялікім – вось праўда. Ну вось, дайшла! Пасягаю ж зараз на тое, што мне стала выратаваннем ад манатоніі карэктарскай, да чаго так імкнулася...

Як ні парадаксальна, але думка аб тым, што з маім адыходам з зямлі развязаліся б вузлы, якіх я не дзеля злога, але ж як на службе ў зла, назавязвала – родная мая думка, не прыблуда. Жыве ўва мне, мірна суседнічае з прагай бясконцага быцця, любові да свету. І гэтая думка – таксама мая віна, мой грэх, бо ўсяму свой час і ўмець радавацца трэба кожнаму дню, імгненню. І шкадую ж сябе! Слёзкі коцяцца, хоць і не дужа спорныя ўжо. Мой шлях. Звілістая лінія. Калі цвяроза глянуць, дык колькі грахоў выпукліцца, колькі правінаў маіх, што хіба хопіць, каб усё жыццё маліцца аб адпушчэнні іх. Я ж грашу дзень за днём, помнячы аб Небе, аб Вышыні. І ад гэтага мае грахі яшчэ чэмерней...

27 лютага

Без веры немагчыма. Заледзянела б. Мая спрэчка на гэтых днях. Так, не ўяўляю сабе па чалавечых мерках Бога. Не магу ўявіць Яго, як бясконцасць не магу ўмясціць у сябе. Але ж адчуваю над усім лёсаносную Руку, Якая кіруе светам з часам прамінулым, цяперашнім і будучым. І чым бы я была без вызнання Бога?! Пустыняй! Жывуць у маёй душы два пачаткі – Бог і каханне. Не магу не любіць, створана так, што жывая толькі тады, калі кахаю. Але ж гэтыя пачаткі так цесна звязаны, што, магчыма, і не пара іх, а адзін толькі... Шчасце веры

– ішла да яго. Пакутліва. І калі раптам адбіраецца ў мяне магчымасць звярнуцца ў малітве да Бога – нягеглай раблюся, зласлівай, зайздроснай. І з удзячнасцю, радасцю кожны дзень прымаю, калі прагаворвае ўва мне Вышыня.

7 красавіка

Паспрабавала запісаць, што Янка Брыль учора ў Доме літаратара на пасяджэнні секцыі літаратуразнаўства і крытыкі, звяртаючыся да маладых, гаварыў: “Самае галоўнае – майце сябра... У мяне два друга ёсць, якім я даю ў рукапісе чытаць: Уладзімір Калеснік і Алесь Адамовіч, вельмі розныя па характары. Каб меней было потым выграбаць... Было два выпадкі, калі мая крытыка не адбылася: у сорак пятым годзе. Калі рэдактарам “ЛіМа” быў Аркадзь Куляшоў, я напісаў артыкул і сустракае мяне на калідоры адзін таварыш ды кажа: “Ты аглобля ў чужых руках, але ж будуць біць і па аглоблі і па руках”. Артыкул я не забраў, але ж яго не пусцілі ў друк, хоць і былі ўжо ўсе адзнакі і роспіс Куляшова. Другі раз, калі выйшла мая кніга, сустрэў мяне Бэндэ ды кажа: “Вазьмуся я за цябе, браток, якой ты мовай пішаш?”, але не паспеў узяцца. Пытайцеся, пакуль мы ёсць...”. Цудоўны Янка Брыль, Іван Антонавіч, саромеюся павітацца з ім, падысці да яго. Баюся! Узровень! Ды ж надзейна быць з ім у адным часе.

5 мая

Як гэта ні парадаксальна, але ж, чым болей я думаю пра нібы агульнае – пра Неба, Вышыню, тым болей мяне зямное радуе. Мацней трымаюся за знешняе: прыгажосць дробязі, хай сабе нават кавалка мыла. Хараство вясновай пары адчуваецца абвострана і на фізічным узроўні, калі дыхаеш на

поўныя грудзі і вачыма ўвесь свет абдымаеш.

Манастырская келля была б спрашчэннем лёсу. Збегчы ад праблем, схавацца. Відаць, сыход у манастыр апраўданы тады, калі прагаворвае ў чалавеку Сусвет, усё чалавецтва і ён за гэтае чалавецтва не можа не маліцца. І не ва ўзросце справа. Мабыць, ёсць людзі, якія хутка сталеюць душою і рана прыходзяць да Ісціны, да разумення асноў светабудовы...

Цяпер усведамляю, што вера ўва мне жыла заўсёды, доўгія гады стукалася ў замкнёныя дзверы душы, прасілася, каб прызнала яе, каб запатрабавала невымерны скарб, атрыманы разам з нараджэннем. Вяртанне да сябе?

27 мая

Царскі падарунак Алеся Сямёнавіча: "О жизни преизбыточествующей" Н. С. Арсеннева, перапляцены томік-ксеракс брусельскага выдання 1966 года. Напружанне, праца пачуццяў на ўсіх маіх паверхах.. Не хапала мне якраз таго, што адкрываю ў гэтай кнізе. Тамленне духу, нявыказанасць – выказанасцю, адкрыццём. Разбалелася нават галава, я згубілася, я – слабая, грэшная. Сорам мне! Мае бляклыя пачуцці, невыразныя думкі. І працягваецца сонечны прамень: чарговая магчымасць стаць глыбей, паразумнець у галоўным. Гэта тое слова пра Госпада, якога я чакала, прадчувала, якое і было ўва мне! Цеснілася і вызваліцца не магло, каб мне ж адкрыцца: "Бог Сам Себя доказывает, обнаруживает, открывает душе. В этом – основа богопознания. Встреча Бога и души – вот стержень и смысл религиозного опыта. Бог может встречаться с нами, говорить сердцу нашему повсюду, на каждом шагу нашей жизни. <Сзади и спереди Ты объемлешь меня и полагаешь на мне руку

Твою>, восклицает псалмопевец. Бог может открываться сердцу и в страданиях, и в радостях, и в момент гибели, и в чудном спасении, и в красоте природы, и в голосе нашей совести, и в ближнем нашем, нуждающемся в нашем сострадании, и, наконец, в томлении, тоске нашей по Нему, неудовлетворенных никакими земными благами и удачами, тоске, которую Он Сам вложил в нас и которая является скрытым голосом Его в нас, зовущим нас к Себе“.

7 чэрвеня

Праз Арсеннева – нечаканая, а доўгачаканая сустрэча. Блез Паскаль! Трыццаць дзевяць гадоў жыцця, “моральная страстность – и строгая дисциплина и честность ума“. 23 лістапада 1654 года адбыўся канчатковы яго зварот да веры, адбылося штосьці незвычайнае, аб чым ён запісаў і ніколі не расставаўся ўжо з гэтым высокім сведчаннем, носячы яго зашытым на грудзях. “Искать со стенаниями – вот к чему мы призваны. Паскаль верит, что <пустота сердца, бесконечная бездна может быть заполнена только предметом бесконечным и непреходящим>, т.е. только Богом“. Вялікі матэматык, фізік, можна сказаць, геніяльны, што аднак не спакусіла, не асадзіла яго ў жыццёвую матэрыю, а, наадварот, вывела на шлях пошуку Прычыны Прычын...

21 чэрвеня

Пару дысертацый мушу прачытаць, перагледзець у галоўнай Ленінскай бібліятэцы. Ужо змірылася з вынікамі абмеркавання сваёй працы. Адчуванне, што Алесь Міхайлавіч чакаў ад мяне большага, чым я магу на дадзеным этапе. Рада, што параўнанне “Маста на Дрыні” Іва Андрыча і

“Млечнага Шляху” Кузьмы Чорнага прызналі ўдалым. Эверэст мой. Уступ, заключэнне трэба канкрэтна дапрацаваць, каб адпавядалі ўсталяваным канонам. Ці знойдзецца мне месца ў аддзеле Ўзаемасувязей літаратур у Інстытуце?..

Добра супала, што кніга Арсеннева патрапіла мне ў рукі перад гэтым выездам у Маскву. І вось чытаю “Мысли (о религии)” Блеза Паскаля, выдання 1899 года! З уступным нарысам Прэва-Парандоля “Паскаль, как моралистъ“, якім жа сутнасна дакладным і як менавіта для мяне напісаным! “Ему нужно хорошо обрисовать человека, чтобы доказать нам, что человек есть загадка, совершенно необъяснимая и неразрешимая никакой другой гипотезой, кроме истинности христианской религии. Чем более странна, значит, природа человека, чем более полна противоречий и непостижима с помошью одного разума, тем очевиднее и выше та истина, которая одна только может объяснить ея. Чем глубже мрак, тем живее и благотворнее покажется нам сменяющий его свет”.

Чалавек, па вызначэнні Паскаля, толькі вельмі слабы па прыродзе трыснёг, які пры тым аднак мысліць. І ў гэтым яго перавага перад усім астатнім, што мацней яго і здольнае знішчыць у адно імгненне. Гэтую сваю думку Паскаль разгортвае далей і ўрэшце выказваецца нечакана і так мне па духу зразумела: “Все тела, свод небесный, звезды, земля с ея царствами не стоят слабейшего из умов, ибо последний знает все это и самого себя, а тела ничего не познают. С другой стороны, все тела в совокупности, все умы вместе и все их произведения не стоят даже малейшего проявления любви: это свойство бесконечно высшего ряда. Все тела в совокупности не могли бы произвести самой ничтожной мысли: это невозможно, это явление

иного ряда. Из всех тел и умов нельзя было бы извлечь ни одного движения истинной Любви: это невозможно, это явление иного ряда, это – выше природы”. Так, Любоў з вялікай літары, якая ёсць Богам і да кожнага з нас звернута, і любоў, якая ў кожным з нас узрошчваецца, набліжае да Існага.

28 жніўня

Успенне Багародзіцы. Што са мной адбылося сёння?! Там, у сціплым Храме ва Ушы пад Маладзечнам. Слёзы, слёзы яшчэ да пачатку службы. І проста, як па інерцыі, услед за іншымі да Споведзі пайшла. З страхам, што нешта не так зраблю, нахілілася над аналоем. Нейкая хвіліна – адказала на пытанні святара і выпрамілася. Ды раптам адчула дзіўныя празрыстасць, лёгкасць па ўсім целе, нібы гатовым вось-вось узляцець. Цела не стала. Застаўся трапяткі, лёгкі, пяшчотны прамень. Што са мною?.. Бездапаможна азірнулася, бо сапраўды адбывалася неверагоднае і шчасліва доўжыліся нейкія імгненні, а я аказалася нібы ў іншым часе і была толькі сведкам рэальнай прасторы. Вагомасць пачала вяртацца паволі... Маё першае Прычасце. І зноў слёзы, лёгкасць, але ўжо іншыя, чым пасля Споведзі. Лёгкасць кроку па зямлі. Учора ў сне – вясёлка над Царквою.



7 чэрвеня **1996**

Забрала з “Мастацкай літаратуры” свой паэтычны зборнік “Ускраек тысячагоддзя”, з нібы грамнічнай свечачкай на вокладцы, якраз на Духаў

дзень! Была на мосце над Нямігай, калі са званіцы Святадухаўскага Храма над стольным Менскам святочна званы загучалі... "Ісус – Айчына./ Горняй мары – жальба і надзея./ У бясконцасць – працяг жыцця". Асанна! Іду далей.



БІБЛІЯТЭКА
Беларускага літаратурнага аб’яднання
“БЕЛАВЕЖА”

Серыя заснавана ў 1990 г.

**Кніга дзевяноста трэцяя**

Рэдактар
*Янка Дубіцкі*

Тэхнічны рэдактар
*Павел Бельскі*

На вокладцы
*карціна Міколы Бушчыка “Святадухаў дзень”*

Чорна-белы фотаздымак
*Уладзімір Сіз*

Графіка
*Ежы Лянгевіч*

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Administracji i Cyfryzacji**



ISBN 978-83-7657-114-0

Nr 93




Mariusz Śliwowski
ul. Kolejowa 19; 15-701 Białystok
tel. 602 766 304,
e-mail: prymat@biasoft.net, www.prymat.biasoft.net